



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

9 кастрычніка 2020 года №41 (1328)

18+


# «Крэўскі замак не захаваць у руінах»

Што абмяркоўвалі на міжнародных чытаннях у Крэве

старонкі 18-19

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.


Стояла перед выбором и не устояла!

Молодечно, ул. Великий Гостинец, 143-б

МОДУЛЬ – чумовой шопинг!

Тел.: (8-029) 6-300-250

ЧУП по оказанию услуг «ТАЦ «Модуль» УНП 690320829



Всем женщинам ОАО «Завод Рембыттехника»

дарит **СКИДКУ 20%** 14 октября **НА УСЛУГИ ПАРИКМАХЕРСКИХ**

Завод РемБытТехника

Скидка 20% действует 14 октября 2020 года в следующих объектах:

- парикмахерская «Чаровница», ул. Притыцкого, 3-а (77-12-11)
- парикмахерская «Мечта», ул. Будавников, 15-а (70-22-50)
- парикмахерская «Купалинка», ул. Я. Купалы, 110-200 (73-19-22)

УНП 600153255


## Маладзечанца аштрафавалі за жнівеньскі мітынг. Ён кажа, што яго подпіс у пратаколе падрабілі

старонка 8

## Адкуль з'явіўся вокліч «Жыве Беларусь!»

старонка 17


Завод РемБытТехника

Милые дамы! **ОАО «Завод Рембыттехника»** поздравляет Вас с наступающим **ДНЁМ МАТЕРИ**

и дарит Вам **МЕГА СКИДКУ 15%** **на услуги химической чистки одежды и обуви**

*МЕГА СКИДКА 15% действует 14 октября 2020 года в приемном пункте ТЦ «СПУТНИК-3» (ул. В. Гостинец, 67-Г-1, расположение между магазинами СВЕТОФОР и JYSK (ЮСК).

Телефоны:

(8-044) **717-61-41** А1 • (8-029) **891-48-78** МТС

УНП 600153255



АККУМУЛЯТОРЫ




- для сигнализаций, весов, ИБП
- для мототехники, инвалидных колясок
- для детских электромобилей
- для лодок, квадроциклов

Продажа • Зарядка • Диагностика

Тел. в Молодечно (8-0176) **58-12-48**

(8-029) **63-63-166**

ООО «Батрикс» УНП 691893243





МАСЛА



От литра до бочки!

Моторные • Трансмиссионные
Гидравлические • Индустриальные
Смазки пластичные
Реагент AdBlue наливом
Антифризы, тосол

Тел. в Молодечно (8-0176) **58-12-48**

(8-029) **63-63-166**

ООО «Батрикс» УНП 691893243


## «Што, ён яшчэ жывы?». Пасля збіцця АМАПам маладзечанец лечыцца ў Чэхіі

старонка 5


ISSN 1991–7155





Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## Каго ўзнагародзілі на абласным свяце да Дня настаўніка

ВІЛЕЙКА

**1 кастрычніка ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры падчас абласной урачыстасці, прысвечанай Дню настаўніка, узнагародзілі педагогаў Вілейшчыны.**

У ліку тых, хто атрымаў дыпломы і кветкі ад абласных уладаў, былі:

**Аляксандр Пуцэйка** – начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама;

**Кацярына Ганчар** – загадчыца вілейскіх ясляў-садка №11;

**Анастасія Станкевіч** – намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Вілейскага дзяржаўнага каледжа;

**Сяргей Манцэвіч** – майстар вытворчага навучання Вілейскага дзяржаўнага каледжа;

**Ала Кучко** – выкладчыца Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа.

**Аддзел інфармацыі.**

# Тры педагогі прайшлі ў фінал конкурсу «Настаўнік года-2020»

МАЛАДЗЕЧНА

**У фінале рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства «Настаўнік года-2020» удзельнічалі тры педагогі з Маладзечанскага раёна.**



Фота uomolik.gov.by.

Выступае Васіль Маліноўскі.

Гэта настаўнік рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы №1 імя Янкі Купалы **Васіль Маліноўскі**, настаўнік гісторыі і грамадазнаўства сярэдняй школы №5 **Максім Самаль** і настаўніца матэматыкі гімназіі №7 **Таццяна Кавалькова**.

На працягу дзесяці дзён педагогі змагаліся за перамогу. У фінале конкурсу удзельнікі творча прадстаўлялі сябе, ладзілі майстар-класы, давалі ўрокі ў незнаёмым класе, праходзілі педагагічнае і псіхалагічнае тэсціраванне, паведамляюць у галоўным упраўленні адукацыі Мінаблвыканкама.

У суперфінал трапіў **Васіль Маліноўскі**. Тут трэба было прайсці яшчэ тры выпрабаванні –даць міні-ўрок на вялікай сцэне, выступіць перад педагагічнай грамадскасцю і паўдзельнічаць у прэс-канферэнцыі, дзе члены журы задавалі пытанні.

Суперфіналіст конкурсу Васіль Маліноўскі атрымаў званне «Выдатнік адукацыі». Таццяна Кавалькова стала лаўрэатам у намінацыі «Фізіка, астраномія, матэматыка, інфарматыка». Адзначылі і выступленне ў фінале **Максіма Самаля**.

**Аддзел інфармацыі.**


ОСТРОВ ЧИСТОТЫ И ВКУСА

ДИСКАУНТЕР

ПРОДУКТЫ ПИТАНИЯ • ТОВАРЫ ДЛЯ ДОМА

ОСТРОВ-ДОСТАВКА

Выгода с доставкой в каждый дом!

НОВЫЙ СЕРВИС

ЕЖЕДНЕВНО

В ВАШЕМ НАСЕЛЕННОМ ПУНКТЕ




Сморгонский район

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Осиновщизна | 10:00 | Стрыпуны | 12:20 | Шутовичи | 15:30 | Жодишки | 18:50 |
| Васюки | 10:35 | Студенец | 13:20 | Залесье | 16:15 | Девятни | 19:25 |
| Солы | 11:05 | Белковщина | 13:50 | Белая | 17:20 | Марковцы | 20:00 |
| Кушляны | 11:40 | Светоч | 15:00 | Сосновка | 18:00 | Корени | 20:30 |

Скидки до 50% только с 5 по 18 октября

1р.45к. 1р.15к. АШ-ТАУ Вода мин., 1,5 л

3р.89к. СВИНИНА АРМЕЙСКАЯ Консервы мясные, 338 г

1р.15к. ПАСТОРАЛЬ Макаронные изделия, Рожки, Паутинка, 900 г

1р.38к. 0р.99к. Кетчуп Нежный, Чили, Шашлычный, 250 г

1р.89к. KWIDZYN Смесь польская консервированная, 400 г

5р.99к. PAULIG Classic Кофе молотый, 250 г

0р.57к. ЛОЖКА В ЛАДОШКЕ Пюре, Яблоко, 100 г

0р.49к. KITEKAT Корм для кошек, Говядина в желе, Курица в соусе, Кролик в соусе, Говядина в соусе, 85 г

6р.05к. 3р.05к. AQUAFRESH Паста зубная, 100 мл

33р.19к. 16р.59к. BIMAX Стиральный порошок, 4 кг

7р.89к. 3р.95к. DOMESTOS Средство чистящее универсальное, 1 л

7р.98к. 3р.99к. FAIRY Средство для мытья посуды, 900 мл

50р.99к. 25р.49к. PUFIES Подгузники-трусики детские, Maxi 46 шт., Junior 42 шт., Large 38 шт.

6р.92к. 3р.45к. DR. SANTE Шампунь или Бальзам, 250 мл

3р.09к. 1р.55к. OLA! Прокладки гигиенические, 10 шт.

7р.76к. 3р.89к. Тушь для ресниц, PODIUM EXTREME

ШИРОКИЙ АССОРТИМЕНТ ТОВАРОВ И ВСЕ АКЦИОННЫЕ ПРЕДЛОЖЕНИЯ С ДОСТАВКОЙ НА ДОМ!
ЗАКАЗ ОФОРМЛЯЕТСЯ С ПОМОЩЬЮ АГЕНТА «ОСТРОВ-ДОСТАВКА».
по тел.: +375 44 781-82-68
БЕСПЛАТНАЯ ДОСТАВКА ПРИ ЗАКАЗЕ ОТ 15 РУБ.
ЧТУП "ЗападХимТорг" УНП 590828925

ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ АГЕНТОВ ПО СБОРУ ЗАЯВОК У НАСЕЛЕНИЯ по тел.: +375 44 598-14-01
Ждем ваши резюме на эл. почту rabota@ostrov-chistoty.by
и отклики на сайте www.ostrov-chistoty.by/vakansii

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Топ-5 тавараў, якія везлі з ГДР у Савецкі Саюз

**Пару год таму ўраджэнец Вілейшчыны паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч расказваў карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты» пра свае паездкі ў Германію. У адной з гутарак прыгадаў, як савецкіх турыстаў дзівілі прылаўкі нямецкіх прадуктовых крам – адных толькі кілбас было каля ста гатункаў.**



Фота ay.by.

Пра такіх лялек з ГДР марылі савецкія дзяўчынкі.

Як аказалася, прадукты – не адзінае, што магло здзівіць тут савецкага турыста ці салдата, што трапіў у нямецкую групу войскаў.

Мы сабралі топ-5 катэгорый рэчаў, якія везлі турысты ў СССР падчас паездак у ГДР.

### 1. Налепкі

У 1970-1980-х гадах у шматлікіх савецкіх сямей налепкі з прыгажунямі з ГДР клеілі на халадзільнікі і магнітафоны, гітары і панэлі аўтамабіляў. Салдаты, якія служылі ва Усходняй Германіі, абклейвалі такімі налепкамі свае дэмбельскія чамаданы, пачкамі везлі іх сябрам.

Калі дакладна, то правільна гэта рэч называлася нават не налепка, а пераводка. Наклейваць яе трэба было вельмі акуратна, папярэдне памачыўшы ў вадзе. Тонкая плёнка адслойвалася ад папяровай асновы і накладалася на патрэбную паверхню. Пасля мяккай анучкай прыбіралі сляды вады і бурбалкі паветра.

### 2. Цацкі

Асаблівай папулярнасцю ў дзяцей карысталася чыгунка Піко з ГДР. Яна была вельмі падобная да сапраўднай, толькі маленькая. У набор уваходзілі паравоз, некалькі вагонаў, рэйкі. Маглі быць таксама семафоры, будынкі станцый, слупы, агароджы, мост. Дзецям таксама везлі мадэлькі машын і самалётаў, канструктары, мікраскопы і электрычныя падводныя лодкі «Дэльфін», гумовых ярка расфарбаваных індзейцаў і салдацікаў.

Дзяўчынкі марылі пра лялек з ГДР. Такія цацкі былі ў прыгожым акуратным адзенні і абутку, у іх заплюшчваліся вочы, лёгка расчэсваліся валасы, тварык быў з мяккай гумы або фарфору.

### 3. Мэбля

Шафу «Хэльга» выпускалі ў ГДР у 1950-60-я гады. Універсальная шафа была прызначана для посуду, адзення і іншых рэчаў. Самым вялікім было сервантнае аддзяленне за шклом – у цэнтры. Па баках – яшчэ два аддзяленні з вешалкамі і паліцамі для адзення. Унізе былі шуфляды. У 1970-1980-я з'яўляюцца шафы-сценкі або секцыі. Акрамя ГДР, падобныя выпускалі ў Югаславіі. Часта «родам» з ГДР былі і папулярныя ў савецкі час горкі, буфеты, трэльяжы – якасныя, з добрага дрэва, цяжкія, паліраваныя.

### 4. Посуд

З посуду самым папулярным быў сервіз «Мадонна». Яго асаблівасцю з'яўляўся дэкор, які быў зусім не падобны на тое, што выраблялі ў СССР. Менавіта роспіс у стылі барока і рабіў посуд такім вытанчаным і прыгожым. У якасці ўпрыгожання выкарыстоўвалі яшчэ і пазалоту. Таму выглядала «Мадонна» багата.

Сервізы выпускалі розныя – сталовыя, чайныя, для кавы. Адрозніваліся яны таксама і па малюнках, і па колеры.

Першыя нямецкія сервізы з намаляванымі на іх напаўаголенымі прыгажунямі трапілі ў СССР пасля вайны ў якасці трафеяў. А калі ў 1950-я гады сталі вяртацца дадому прадстаўнікі групы савецкіх войскаў у Германіі, яны таксама везлі ў сваіх чамаданах гэтыя нямецкія сервізы. Раскоша даставалася не простым салдатам, а генералам. Такі посуд у тыя гады лічыўся адным з прыкмет прыналежнасці да эліты. Цікава, што «Мадоннай» сервіз назвалі ў Саюзе. У самой Германіі яны называліся інакш – «Марыя», «Ульрыка», «Фрэдэрыка».

У 1970-я многія савецкія гаспадыні марылі займець «Мадонну».

У Германіі засталася вялікая група савецкіх войскаў. І ці не кожны, хто служыў там, лічыў неабходным набыць сервіз сабе і родным.

### 5. Адзенне і бялізна

У пачатку 1970-х у гардэробе савецкіх жанчын з'яўляюцца камбінацыі, ніжняя бялізна, капронавыя калготкі, панчохі, яркія купальнікі з ГДР. Усё адрознівалася ад савецкага і якасцю, і знешнім выглядам.

Прывозілі і джынсы фірмы Wrangler. Але больш папулярнымі былі амерыканскія Lee. Везлі гальштукі, сукенкі, трыкатаж, абутак.

Падрыхтавала
**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**6 709**

Столькі настаўнікаў беларускай мовы працавала ў Беларусі на пачатак мінулага навучальнага года

*Паводле Белстата.*

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.10 | 8.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6236 | **2.6205** |
| Еўра | 3.0727 | **3.0818** |
| Злоты, 10 | 6.7755 | **6.8695** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3343 | **3.3548** |
| Грыўня, 100 | 9.2701 | **9.2495** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 30.09 | 7.10 |
| Еўра | 3.0200/3.1100 | **3.0200/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.5900/2.6600 | **2.5800/2.6500** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 30.09 | 7.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,99 | **20,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,78 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,50 | **17,00** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **4,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,30 | **2,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,90** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,00 | **2,40** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | **2,10** |
| Перац, 1 кг | 2,00 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 3,60 | **3,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **2,90** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Персікі, 1 кг | 5,00 | **3,80** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **3,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,99 | **2,80** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | **3,20** |

### Школьніца ў навушніках не заўважыла аўтамабіль

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 30 верасня, паведамілі ў ДАІ Вілейкі.

Каля 17 гадзін віляйчанка выехала на аўтамабілі «Мерсэдэс-Бэнц» з боку гарадскога басейна і ехала ў бок магазіна №26. У гэты час на дарогу выйшла дзяўчынка з мабільнікам у руках і ў навушніках. Дзіця не заўважыла машыну. Па словах работнікаў ДАІ, жанчына своечасова спынілася. Аднак дзяўчынка выпусціла з рук мабільнік, які паляцеў проста ў лабавое шкло машыны і пабіў яго.

Кіроўца выйшла з машыны, выклікала ДАІ. З дзяўчынкай усё добра.

Па словах начальніка ДАІ **Руслана Скварцова**, дадзены выпадак адносіцца да ДТЗ, бо ёсць механічныя пашкоджанні аўтамабіля.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Мужчына мяняў газавы балон і трапіў у бальніцу з апёкамі

ВАЛОЖЫН

Здарэнне адбылося 6 кастрычніка каля 16 гадзін, расказала старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Дыяна Жалязняк**.

– Выратавальнікам паведамілі, што гарыць дачны дом у садовым таварыстве «Іскра Ракава» ў вёсцы Кучкуны. Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што гарыць адкрытым полымем драўляны аднапавярховы дачны дом. Пацярпеў 76-гадовы гаспадар, – расказала Дыяна Жалязняк.

Па яе словах, мужчына мяняў газавы балон у доме. У гэты час адбылася ўспышка газапаветранай сумесі. Пенсіянер атрымаў тэрмічныя апёкі і самастойна пакінуў дом, у якім пачаўся пажар.

У выніку пажару згарэў дах, мансардавы паверх, пашкоджаныя сцены і перакрыцці. Пацярпелага забралі ў бальніцу.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём падчас замены газавага балона.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Мужчына загінуў пад цягнікам

МАЛАДЗЕЧНА

У Мінску 2 кастрычніка каля 18 гадзін пад цягнік трапіў 49-гадовы жыхар Маладзечаншчыны. Трагедыя здарылася на ўчастку чыгуначнага пуці Ждановічы-Лябяжы.

Мужчына трапіў пад цягнік гарадскіх ліній Беларусь-Мінск. Ад траўмаў ён памёр на месцы. Высвятляюць абставіны здарэння.

**Паводле МУС.**

### Сутыкнуліся аўтамабіль і мапед

МАЛАДЗЕЧНА

4 кастрычніка ў 13 гадзін здарылася аварыя ў Маладзечне, у мікраёне Парашкі. Сутыкнуліся аўтамабіль «Пежо-406» і мапед, расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

28-гадовы маладзечанец на «Пежо» ехаў па вуліцы Янкі Купалы ў кірунку Вялікага Гасціца. Каля дома №130 пры павароце налева кіроўца аўтамабіля не прапусціў мапед, які ехаў насустрач. У выніку машына і мапед сутыкнуліся. 29-гадовы маладзечанец, кіроўца мапеда, пацярпеў. У яго – вывіх, удары, раны. Пацярпелага забралі ў Маладзечанскую ЦРБ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Жыхара Краснага падазраюць у забойстве жонкі

МАЛАДЗЕЧНА

**У ноч з 2 на 3 кастрычніка супрацоўнікі крымінальнага вышуку затрымалі 38-гадовага жыхара вёскі Краснае, якога падазраюць у забойстве сваёй 35-гадовай жонкі.**



Фота з суполкі vk.com/krasnaje.

Трагедыя адбылася ноччу ў Красным.

Аб здарэнні на лінію 102 паведаміў 41-гадовы мясцовы жыхар, які ўбачыў жанчыну ў лужыне крыві без прыкмет жыцця ў суседскім двары. На месца здарэння неадкладна прыбыла следча-аператыўная група.

У той вечар пятніцы фігурант застаў жонку ў гасцях у знаёмага, 35-гадовага жыхара вёскі. На глебе раўнасці муж падчас канфлікту стаў біць жонку рукамі і нагамі па розных частках цела. Збіццё працягнулася ў двары прыватнага дома. Муж цягаў жонку за валасы, біў, ад чаго пацярпелая памерла на месцы. Гаспадар дома, дзе адбылася трагедыя, не ўмешваўся ў канфлікт.

Выпадковым сведкам трагедыі стаў сусед, які прыбег, пачуўшы крыкі і лаянку за плотам. Мужчына заспеў нецвярозага мужчыну. Той стаяў над скрываўленым целам забітай. Пасля паспрабаваў схавацца, але быў затрыманы. Сусед выклікаў «хуткую дапамогу» і праваахоўнікаў. Медыкі канстатавалі смерць пацярпелай.

Паводле папярэдніх вынікаў, прычынай гібелі стала тупая спалучаная траўма галавы, тулава і канечнасцей.

Падазраваны на момант затрымання быў моцна п'яны, што пацвердзіла экспертыза. Што менавіта стала прычынай учынку, мужчына адразу патлумачыць не змог. Толькі прыгадаў, што канфлікт паміж імі адбыўся на глебе раўнасці і асабістых непрыязных адносін.

У сям'і выхоўваецца 14-гадовы падлетак. Цяпер вырашаецца пытанне пра далейшы лёс дзіцяці.

Затрыманы не адмаўляе сваёй віны і напісаў яўку з пакаяннем. Яго дзеянні следчыя кваліфікавалі па частцы 1 артыкула 139 КК Рэспублікі Беларусь – «Забойства». Санкцыя артыкула прадугледжвае пазбаўленне волі ад шасці да пятнаццаці гадоў.

**УУС Мінаблвыканкама.**

## Працягваецца акцыя ДАІ «Пешаход»

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 2 да 12 кастрычніка АДАІ Маладзечна праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю «Пешаход».**

Акцыю ладзяць для прафілактыкі і недапушчэння ДТЗ з удзелам пешаходаў на пешаходных пераходах, папулярызацыі выкарыстання флікераў і камізэлек павышанай бачнасці ў цёмны час сутак. ДАІ праводзіць рэйды па адпрацоўцы ў «гадзіны пік» і ў цёмны час сутак нерэгуляваных пешаходных пераходаў, участкаў аўтамабільных дарог, вуліц населеных пунктаў, дзе найбольшая рызыка наездаў на пешаходаў. У тым ліку праверацц выкарыстанне флікераў.

Найбольшы ўзровень пешаходнага траўматызму адзначаецца ў асенне-зімовы перыяд, і доля аварый з удзелам пешаходаў дасягае 60-70 працэнтаў ад усіх ДТЗ. У гэты час года кароткі светлавы дзень. Пры руху ў цемры па неасветленых дарогах кіроўца бачыць толькі тую частку дарогі, якая асвятляецца фарамі аўтамабіля. Пры гэтым ўспрыманне вокам светлавых кантрастаў становіцца горшым, чым пры дзённым святле, і цяжэй заўважыць пешаходаў, веласіпедыстаў і конны транспарт.

**Дзяржаўтаінспекцыя горада Маладзечна звяртаецца да грамадзян**

Пры руху ў цёмны час сутак выкарыстоўвайце ў элементах верхняга адзення святлоадбівальныя нашыўкі, устаўкі. І паведамляйце пра факты знаходжання на праезнай частцы і блізка да яе сядзячых, ляжачых, нецвярозых пешаходаў па тэлефонах **(8-01776) 77-16-56, 102**.

**Сяргей БАРТОШ,**
**АДАІ Маладзечна.**





АККУМУЛЯТОРЫ

стартерные

Возможна доставка по договоренности

Широкий ассортимент
**от 4 А·ч до 230 А·ч**

**Разных типов и производителей**



Бесплатное тестирование АКБ • Покупка отработанных АКБ

Тел. в Молодечно (8-0176) **58-12-48**, (8-029) **63-63-166**

ООО «Батрикс» УНП 691893243

# «Што, ён яшчэ жывы?»

## Пасля збіцця АМАПам маладзечанец лечыцца ў Чэхіі




Фота забяспечанае Аленай ЦІТАВЕЦ.

Павел Цітавец у Празе.

**Пасля збіцця мужчыну тры дні не аказвалі медыцынскую дапамогу. У Беларусі яго стан не паляпшаўся, і сям'я выехала для лячэння ў Прагу.**

### Тры дні без дапамогі

44-гадовага **Паўла Цітаўца** затрымалі ў Маладзечне вечарам 9 жніўня. Ён ехаў на ровары ў раёне гімназіі №7. Там амапаўцы ўдарылі яго дубінкай так, што мужчына страціў прытомнасць. Яго зацягнулі ў аўтазак.

**Усю ноч у двары Маладзечанскага РАУС Павел не прыходзіў у сябе, пасля яго этапавалі ў Чэрвень.**

«Калі ачуняў, ужо быў світанак. Там у двары ўсе сядзелі. Кайданкі ззаду былі, не мог устаць, сесці. Як у аўтазак грузілі, без памяці. Чаму мне «хуткую» не выклікалі, не разумею. Правае вока заплыло, не расплюшчвалася. На другі дзень пухліна пачала спадаць. Чаму ў Чэрвені міліцыянеры дактароў не выклікалі, не ведаю. Ім галоўнае было пратаколы скласці», – казаў Цітавец у інтэрв'ю журналісту «Рэгіянальнай газеты» 17 жніўня.

**Жонка Алена Карэліна даведалася пра тое, дзе Павел, толькі праз тры дні. Пасля затрымання ў Паўла ўзніклі праблемы са здароўем. Яму цяжка размаўляць, запамінаць, думаць.**

### Наступствы для здароўя

Пасля затрымання ў Паўла – чэрапна-мазгавая траўма, пераломы рэбраў, мужчына аглух на правае вуха. Мужчыну цягам трох дзён затрымання не аказвалі медыцынскую дапамогу. На восьмы дзень яму зрабілі рэнтген і знайшлі пераломы рэбраў. Жонка кажа, што з-за праблем з мозгам ён не адчувае боль.

Мы распыталіся ў Алены Карэлінай пра самаадчуванне Паўла на канец верасня, праз паўтара месяца пасля здарэння.

– З вялікімі складанасцямі і нервамі мы выехалі за мяжу, каб завезці Пашу на лячэнне.

**Лячыць яго будуць доўга, наладжваць працу мозга будуць паступова. Ён ходзіць, але з галавой не сябруе. Думак многа, а слоў не мае, каб выказаць.**

Усе гэтыя працэсы ў галаве складаныя. Яго даглядаюць. Магчыма, спатрэбіцца аперацыя – будуць глядзець. Будуць рабіць МРТ, рабіць сваё абследаванне. Калі вырашаць, што спатрэбіцца аперацыя, яе будуць рабіць тут. Доктар сказаў, каб Паша пакуль адпачываў, няспешна хадзіў, любаваўся Прагай. Ведаю, што ў Беларусі трывожна, майму сэрцу гэта вельмі балюча.

### Эпікрыз выбівалі праз міністэрства

Няпроста было нават выехаць за мяжу. Вось як пра гэта расказвае Алена:

– Лячыць Пашу далей трэба было ехаць у Чэхію. Для гэтага спатрэбілася сабраць дакументы. І тут пачалося такое з дакументацыяй, што дагэтуль не магу адысці. У бальніцы Пашу лячылі антыбіётыкамі і трайчаткай, адначасова звярнулася ў прыватны медцэнтр. Там прапісалі лячэнне на немаленькую суму. Бегаю ў бальніцу і калю гэтыя лекі сама, таблеткі па гадзінах сачыла, каб піў, бо ён не запамінаў. Калі паказала выпісанае прыватным дактарам таму, хто лячыў у бальніцы, той адказаў, што не ведае, як гэтыя лекі будуць спалучацца.

**А паглядзеўшы на КТ Пашу, прыватны доктар сказаў: «Што, гэты чалавек яшчэ жывы?».**

Пасля Пашу перавялі з дзіцячай бальніцы, дзе ён ляжаў, у бальніцу на Чкалава. Там ужо мне ход быў закрыты з-за каронавіруса. Прыватны доктар выпісаў другі этап лячэння – кропельніца, якую сама зрабіць не магла б. Выпісалі Пашу, і тут адгукаецца Чэхія – ім патрэбны эпікрыз. А ў бальніцы кажуць, што не даюць. Выбівалі яго праз гарачую лінію міністэрства. А гэта ж усё цягнулася днямі! Пасля таго як Пашу выпісалі, у нас дом ператварыўся ў лабараторыю. Мы паставілі яго на ногі дзякуючы лячэнню доктара з прыватнага цэнтра.

Быў патрэбны дакумент ад доктара, які падпісаў бы дазвол для пералёту. Мы звярталіся да многіх медыкаў, нам казалі: ляцець ён можа, але пісьмова мы не можам даць дазвол. Нават казалі: «Я што, з-за вас сядзець буду?».

Ну, раз нам не далі дазвол на больш лёгкі шлях, пералёт, мы вырашылі паехаць аўтобусам. Дарога была няпростая, але мы мелі ўсе патрэбныя дакументы. Хаця Паша ледзь вытрымаў. Яму пытанні задаюць, а ён жа не можа сфармуляваць адказы. Неяк усё перааддолелі. Цэлы тыдзень адыходзілі ад стрэсаў.

**Назіраюць гематому на галаве паміж чэрапам і мозгам – 9 сантыметраў на 2 міліметры. Калі яе стан пагоршыцца, спатрэбіцца аперацыя.**

Такі стрэс, столькі лекаў, так што ён аднаўляецца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Ініцыятыва падтрымкі by_help Molo дапамагае і падтрымлівае людзей, пацярпелых ад гвалту сілавікоў. Звяртацца могуць і жыхары суседніх раёнаў. Звязацца з ініцыятывай можна праз аднайменны канал у тэлеграме – **by_help Molo.**

Калі вы або вашы знаёмыя пацярпелі ад гвалтоўных дзеянняў сілавікоў 9 жніўня і пазней, пішыце на электронную пошту **czhelp2020@gmail.com.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |


## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Нісан-Прымера, 1992 г.в., 1,6 л, газ-бензін, 480000 км. На хаду, нядорага. Т. (8-029) 9959778.*
- Опель-Астра ўніверсал X20DTL, 1999 г.в., прабег 328 тыс.км, белы, 5940 руб., прычэп МАЗ 81144 «Зубраня» 1991 г.в., бэжавы, барты, тэнт, 300 руб. Т. (8-029) 7024400.
- Опель-Астра 1,7 ТДІ, рухавік Ісузу, 1995 г.в., камплект зімовай гумы на дысках. 2860 руб. Т. (8-033) 3237067, Вілейка.
- Рэно-Меган Сцэнік 1998 г.в., 1,9 Д, абслужаны, у добрым стане для сваіх гадоў. Т. (8-029) 2515164.
- Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***
- Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*
- Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.
- Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### КУПЛЮ

- Гараж у ПС 1 г. Маладзечна. Т. (8-033) 6035716.*

### ЗДАМ

- Кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 2103019.

### НАЙМУ

- 2-х, 3-х, 4-пакаёвую кватэру ў Вілейцы або дом з выгодамі на доўгі тэрмін, дорага. Т. (+375-44) 5132783.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Музыка, відэаздымка, фотаздымка, тамада. Т. (8-029) 8578378.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

**РЕМОНТ ТЕЛЕВИЗОРОВ И СПУТНИКОВЫХ АНТЕНН**
Тел. (8-029) **561-39-72**
ИП Токмаков Г.В. УНП 692022633

- **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*
- «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*
- Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*
- Бурэнне свідравін (скважин). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*
- Наносім фота на кубак, майку. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т.(8-029) 6631595.*
- Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*
- **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*
- **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- Узворванне, культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*
- Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

**АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ**
(8029) **762-78-98**
(8029) **332-67-79**
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

**Музінструмент**

- Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*
- Карова, 7 год. Т. (8-029) 7518549, (8-0176) 504159.*
- Коз зааненскіх, 2 шт., высокаўдойныя, цана дамоўная, дапамагу з дастаўкай. Вёска Ілья, Вілейскі р-н. Т. (+37533) 6934239 (МТС), (+37529) 9980002 (А1).*
- Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*
- Парасяты дамашнія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.*
- Пчолы ў Мядзельскім раёне. Т. (8-029) 5952981.
- Карова. Чорна-пярэстая. Было тры ацёлы, пакрытая. 1650 руб., торг. Вілейскі раён, Селішча. Т. (8-029) 5700744, Раіса.

**Іншае**

- Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*
- Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*
- Лазневыя венікі. Бяроза, дуб, ліпа. Т. (+375-29) 7561245.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.
- Папугая карэла. (8-029)5019550.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Фотаапараты «Зеніт» і розныя аб'ектывы. Т. (8-029) 2988005.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

- Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.
- Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. Т. (+375-44) 4564380.*

Окна • Двери • Рамы
ПВХ ОТКОСЫ
ДВЕРИ металлические межкомнатные
НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ
Скидки • Рассрочка
Гарантия
Большой ассортимент продукции
Тел. (8-029) 765-78-31
(8-044) 773-86-22
ИП Шмелёв И.Н. УНП 692027451

ООО Проф Вит Юр
У НАС НЕДОРОГО!
-Окна ПВХ
-ДВЕРИ металлические межкомнатные
-НАТЯЖНЫЕ потолки
скидки 30%
РАССРОЧКА!
vityr.by
Звоните НАМ:
8 029 8 033 690-32-22
*Подробности акции уточняйте у менеджера

В ООО «ГАРАНТ КАЧЕСТВА» требуется
КАМЕНЩИК
Зарплата от 1 500 бел. руб. до вычета налогов
Требуемый опыт работы на соответствующей должности: 1–3 года
Возможен вахтовый метод работы
Жильё предоставляем
Контактные номера:
(8-029) 627-24-76
(8-044) 558-96-00
УНП 190530832

Верные решения
ООО «САЮРА»
ОКНА и ДВЕРИ из ПВХ
БАЛКОННЫЕ РАМЫ
5 лет гарантия
• Умеренные цены
• Высокое качество
• Отделка откосов
(8-029) 865-49-59 МТС
(8-029) 656-41-37 А1
(8-029) 886-95-80 МТС
Рассрочка 0%
УНП 690601417

Требуются:
ФАСАДЧИКИ
ОТДЕЛОЧНИКИ
МАЛЯРЫ-ШТУКАТУРЫ
Тел. (8-029) 341-66-06
(8-029) 377-11-08
(8-044) 761-65-38
ООО «АртДиСтрой» УНП 691898722

ОБШИВКА ДОМА САЙДИНГОМ
УТЕПЛЕНИЕ
КРОВЛЯ
Рассрочка • Кредит
Тел. (8-033) 366-76-60
(8-029) 978-27-25
ИП Завадский В.А. УНП 692246263

ВОКНЫ танна ад вытворцы
Тэл. (8-029) 394-64-99
(8-029) 763-00-32
ТДА «Белокно» УНП 690536156

УТЕПЛЕНИЕ ДОМОВ
заполнение воздушных зазоров наружных стен здания карбамидным
ПЕНОПЛАСТОМ МАРКИ ПЕНОТЕК-НГ
СНИЖЕНИЕ ПОТЕРЬ ТЕПЛА ДО 40%
penotek-ng.by
(8-029) 127-04-25
(8-029) 563-28-40
ИП Грищенков И.Н. УНП 191574779

ВОРОТА откатные и распашные
ЗАБОРЫ • НАВЕСЫ
козырьки и прочие изделия из металла с ковкой или без
Рассрочка
Тел. (8-029) 761-13-11
(8-044) 714-52-08
ИП Дрозд В.А. УНП 692024743

Рэклама ў «РГ»
8 (0176) 53-78-04
reklama@rh.by

БУРЕНИЕ СКВАЖИН на воду всех видов
Выгодные цены!
Тел. (8-044) 5486213
ИП Пикулик А.Л. УНП 193411127

СООО «Детский реабилитационно-оздоровительный центр «Надежда» (Минская область, Вилейский район) приглашает на работу
• МЕДИЦИНСКИХ РАБОТНИКОВ, ИМЕЮЩИХ КВАЛИФИКАЦИОННУЮ КАТЕГОРИЮ ВРАЧА-ПЕДИАТРА
• МЕДИЦИНСКУЮ СЕСТРУ (с возможностью переподготовки по специальности «Физиотерапия»)
• а также САНИТАРКУ
Справки по телефонам: (8-01771) 32-692, (8-044) 787-70-84, (8-033) 667-12-22 (Дмитрий Григорьевич Высоцкий)
УНП 100341872

• АРМАТУРА
• ТРУБЫ
• МЕТАЛЛОПРОКАТ
• ПРОФНАСТИЛ
РЕЗКА, ДОСТАВКА
Аренда автокрана
г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) 58-04-76, 50-56-53
(8-029) 196-90-53 (-23), (-43)
ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156

БУРЕНИЕ СКВАЖИН НА ВОДУ
(8-029) 360-36-63
(8-029) 833-12-45
ИП Суббот П.И. УНП 692010733

ВЫШУКОВЫЯ РАБОТЫ
ПАД БУДАЎНІЦТВА КАТЭДЖАЎ
МТС (8-029) 277 00 77
(8-029) 323 62 35
FavoritOOO@rambler.ru
ТАА «ГенПраектПлюс» УНП 690690182

ТЕПЛИЦЫ
ПОЛИКАРБОНАТ
WWW.AGROINVEST.BY
ООО «Светопрозрачная кровля» УНП 591001987
(8029)324-80-20

• ИЗМЕЛЬЧЕНИЕ ВЕТОК В ЩЕПУ
• УДАЛЕНИЕ ПНЕЙ
• ВЫВОЗ
• АРЕНДА ТЕХНИКИ
Гарантия 100%
Тел. (8-033) 6330830 Вайбер
ИП Тавгень Е.П. УНП 691882722

# «Ляглі на матрац, другім накрыліся». Маладзечанцы расказалі пра затрыманне і дзве ночы ў ізалятары ў Салігорску

**У суботу, 3 кастрычніка, у Салігорску праходзіла шэсце ў парку 4 стыхій. Падчас акцыі пачаліся затрыманні, а сярод затрыманых апынуліся трое маладзечанцаў. «Рэгіянальная газета» расказвае іх гісторыю.**



На шэсці ў Салігорску дзяжурылі супрацоўнікі міліцыі і АМАП. Ілюстрацыйнае фота.

### «Зараз пачнуць нас «пакаваць»

**Аляксандр Карнееў**, **Аксана Ачыновіч** і **Вікторыя Козак** не адмаўляюць, што спецыяльна прыехалі на акцыю ў Салігорск. Яны расказалі, што перад шэсцем у салігорцаў было чаяванне, а потым ужо і сама акцыя. Маладзечанцы трохі спазніліся, але паспелі на пачатак шэсця.

– На шэсці засталося менш людзей, як было, напрыклад, тады, калі чай пілі, – дзеліцца Аляксандр.

**У маладзечанцаў з сабой былі два плакаты: на адным з іх размясцілі фотаздымак Мікіты Крыўцова.**

– Мы прайшлі каля 20 метраў, можа, і менш, а потым убачылі амапаўцаў. Яны падыходзілі з двух бакоў, акружалі, – успамінае Вікторыя.

Адзін плакат хутка парвалі і выкінулі, а другі з выявай Крыўцова схавалі. Пайшлі шукаць аўтамабіль, на якім прыехалі. Маладзечанцы кажуць, што каля машыны паспелі пакурыць, а потым вырашылі схадзіць у краму па ваду. Яны ўжо падыходзілі да крамы, калі ля іх спыніўся мікрааўтобус.

**– Яшчэ тады пажартаваў. Кажу дзяўчатам, уявіце, калі з гэтага буса выбегуць гэтыя ў масках і пачнуць нас «пакаваць», – кажа Аляксандр.**

Пасля гэтай фразы Аляксандра з буса якраз і выбеглі сілавікі. Адзін з іх быў у цывільным. Маладзечанцы паспелі спытацца ў яго, чаму іх затрымліваюць. Аксана сказала, што мужчына ў цывільным вельмі хутка паказаў пасведчанне, і яна не ўбачыла, што ў ім было напісана. А вось Вікторыя запомніла, што мужчына паказаў пасведчанне, у якім было напісана «КГБ».

Вікторыю, Аксану і Аляксандра прывезлі ў Салігорскі РАУС.

### «Не здымеш золата – адвядзём да зэчак, яны там табе здымуць»

Па словах маладзечанцаў, калі яны прыехалі ў Салігорскі РАУС, то ім адразу сказалі здымаць золата, даставаць каштоўныя рэчы, шнуркі з абутку.

– Прыйшоў начальнік аховы грамадскага парадку Салавей і сказаў мне, каб адводзілі ў ізалятар. Паказаў на Аксану, паўтарыў тое самае, – кажа Вікторыя.

Аксана цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, але яе не выпусцілі з аддзялення міліцыі. У панядзелак яна даведалася, што мужчыну, які быў у дэкрэтным адпачынку, адпусцілі ў дзень затрымання ў суботу. У Вікторыі таксама ёсць непаўналетнія дзеці. Аднак жанчыны ўсё роўна сядзелі ў ізалятары да суда ў панядзелак.

– Не змагла зняць залатыя пярсцёнкі, калі нас збіраліся ў ізалятар адправіць. Мне сказалі, «Не здымеш золата – адвядзём да зэчак, яны там табе здымуць», – распавяла Аксана.

### Шахматы з хлеба, ноч без матрацаў і музыка ад ахоўнікаў

Уражанні ад умоў ізалятара ва ўсіх траіх аднолькавыя. Вікторыю і Аксану размясцілі ў двухмеснай камеры ўдзвюх. Аляксандр быў з яшчэ дванаццаццю мужчынамі ў васьмімеснай камеры. Адпаведна, ежу мужчынам давалі на восем чалавек. Мужчыны дзялілі ежу паміж сабой, але і адмаўляліся ад яе, казалі перадаць маладзечанскім дзяўчатам.

У Аксаны і Вікторыі ў камеры ўжо былі два матрацы, прасціны і падушкі ім у першую ноч не далі.

– Мы ўдзвюх ляглі на адзін матрац, а другім накрыліся. У камеры было вельмі холадна, таму хоць так. Яшчэ цьмянае святло, відэакамера, – успамінае Вікторыя.

**Аляксандр кажа, што ў мужчын у першую ноч было інакш: яны спалі па чарзе, без матрацаў. Маладзечанец дзеліцца, што толькі ў першую ноч было складана, на наступны дзень стала лягчэй.**

У ізалятары прачыналіся пад гімн Беларусі. Па словах маладзечанцаў, музыка ўвогуле гучала часта. Вікторыя памятае рэпертуар аднаго з беларускіх выканаўцаў:

– Уключалі часам гучна. Памятаю, што Саладуху са «Здравствуй, чужая милая» ўключалі некалькі разоў запар! Ведаеце, ды і адносіны ахоўнікаў да нас былі, скажам так, нечалавечыя.

На другі дзень, у нядзелю, да Вікторыі і Аксаны прывялі яшчэ дзвюх дзяўчат. Іх таксама затрымалі падчас суботняга шэсця, але да нядзелі трымалі ў двухмеснай камеры. Вікторыя мяркуе, што падсялілі для таго, каб вызваліць камеры ў ізалятары падчас нядзельнага марша.

Па словах усіх траіх, адносіны да затрыманых змяніліся ў нядзелю, калі прыйшла новая змена ў ізалятар. Жанчынам далі новыя матрацы, выдалі падушкі, далі кубкі, каб наліваць туды кіпень. Мужчынам толькі ў нядзелю далі матрацы.

У нядзелю, прыкладна ў дзве гадзіны, калі ў Мінску і астатніх беларускіх гарадах пачынаўся марш, мужчыны ў камеры таксама пачалі сваю акцыю.

**– Спецыяльна падлічылі час, каб было дзве гадзіны. Мы хадзілі вакол стала ў камеры, скандзіравалі «Жыве Беларусь!». Ахоўнікі спецыяльна вельмі гучна ўключалі музыку, каб у астатніх камерах не пачулі тое, што мы крычым.**

Затрыманых з камер выпускалі некалькі разоў на дзень на вуліцу. Вікторыя і Аксана кажуць, што на вельмі кароткі час – па адчуваннях, менш за 10 хвілін. У камеры ў гэты час праводзілі так званую дэзінфекцыю, калі на падлогу проста вылівалі вядро з растворам хлоркі. Аляксандр успамінае, што затрыманыя мужчыны гулялі, гэта значыць, хадзілі па крузе каля гадзіны на свежым паветры.

Вікторыя і Аксана ўспамінаюць, што паміж сабой асабліва не размаўлялі, былі ў нейкім ступары. Аляксандр распавёў, што разам з мужчынамі, наадварот, спрабавалі сябе забаўляць: зрабілі з хлеба шахматныя фігуры, намалявалі ручкай (якую пасля адабралі ахоўнікі) дошку і гулялі. Яшчэ загадвалі загадкі, гулялі ў словы. Там жа Аляксандр пазнаёміўся з салігорскім шахцёрам **Юрыем Корзунам**.

У нядзелю затрыманым маладзечанцам упершыню паказалі пратаколы, зрабілі пратакол апытання. Толькі тады ім паведамілі, што суд адбудзецца ўжо ў панядзелак. Да гэтага моманту яны спрабавалі даведацца ў ахоўнікаў, колькі ім сядзець, але яны ніяк не рэагавалі на затрыманых.

### Суд у міліцыі і «даверанасць АМАПа»

У панядзелак раніцай адбыўся суд. Затрыманых у салігорскі суд не павезлі, суддзя сам прыехаў у аддзяленне.

Вікторыя і Аксана прызналі сваю віну. Па іх словах, на судовае пасяджэнне сыходзіла каля 10 хвілін. Маладзечанкам далі па 20 базавых велічынь. Яны чакалі судовага разбору Аляксандра.

– Доўга чакалі Аляксандра, а потым нам прадстаўнік стачкама «Беларуськалій» паведаміў, што яму знайшлі адваката. Вельмі ўдзячныя стачкаму, што яны нас падтрымалі.

Аляксандр кажа, што зайшоў у кабінет, дзе разглядалі справы па артыкуле 23.34, а там сядзіць жанчына.

– Гаворыць, я – ваш адвакат.

На судзе ў Аляксандра былі два сведкі з салігорскай міліцыі, але яго з дзяўчатамі затрымліваў АМАП, і мужчына бачыў гэтых супрацоўнікаў упершыню.

– Сведкі блыталіся, адвакат лавіла іх на маленькіх момантах. Адзін сказаў, што затрымлівалі нас у натоўпе, хаця мы ішлі ў краму толькі ўтраіх, побач нікога не было. А іншы ў выніку сказаў, што паўнамоцтвы казаць аб затрыманні яму дэлегавалі па даверанасці АМАПа.

Аляксандру далі 25 базавых велічынь.


Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Маладзечанца аштрафавалі за жнівеньскі мітынг. **Ён кажа, што яго подпіс у пратаколе падрабілі**

**30 верасня і 1 кастрычніка ў судзе Маладзечанскага раёна суддзя Інэса Южык разглядзела справу праграміста Міхаіла Атрахімовіча. Міхаіла затрымалі разам з бацькам яшчэ 10 жніўня, пратрымалі амаль усю ноч і адпусцілі пасля складання пратаколаў.**




У гэтым будынку судзілі сына і бацьку Міхаіла і Мікалая Атрахімовічаў. Іх аштрафавалі за ўдзел у мітынгу.

### «Я ляжаў тварам уніз пад гаражом РАУС»

11 жніўня ў адносінах да Міхаіла склалі пратакол па адміністрацыйным артыкуле 23.34. У ім пазначана, што 10 жніўня каля 22 гадзін мужчына прымаў актыўны ўдзел у несанкцыянiраваным масавым мерапрыемстве. Міхаіл не згодны з пратаколам. Адзначыў, што яго не падпісваў, а подпіс у ім увогуле падроблены.

Па словах мужчыны, 10 жніўня прыехаў з працы і пайшоў дадому разам з бацькам. Яны пераходзілі вуліцу Віленскую ад будынка МНС да банка БелВЭБ каля 19 гадзін. У гэты момант да мужчын пад'ехалі дзве машыны міліцыі, з іх выйшлі пяць чалавек. Яны адвезлі мужчын у Маладзечанскі РАУС. Ва ўнутраным дворыку Міхаіла і Мікалая паклалі тварам уніз на асфальт. У такім становішчы яны праляжалі прыкладна да дзвюх гадзін ночы.

– Я ляжаў тварам уніз пад гаражом у РАУС да ночы, было ўжо цёмна. Калі мы ляжалі, то ў першыя 20 хвілін нас абшукалі, перапісалі ўсе рэчы. Нас знялі на відэакамеру. Гэта было дзесьці ў 19:30.

Міхаіл не ведае, хто яго затрымліваў: не прадстаўляліся, былі ў масках. Аднак упэўнены, што гэта былі міліцыянеры, а не амапаўцы.

### Сведка Гадун: нічога не памятае, нічога не можа сказаць

**Дзмітры Гадун** працуе ў Маладзечанскім РАУС. Міхаіла Атрахімовіча ён ведае, таму што жывуць побач, суседзі.

10 жніўня Гадун знаходзіўся ў РАУС, складаў пратаколы на затрыманых. Ён не памятае, у колькі Атрахімовічаў прывезлі ў аддзяленне, не ведае, хто іх затрымліваў.

Суддзя зачытала рапарт, які ўвогуле быў складзены 9 жніўня, у якім Гадун пазначаў, што Атрахімовіч удзельнічаў у несанкцыянiраваным масавым мерапрыемстве, і гэта пацвярджаецца словамі самога Міхаіла.

У пратаколе адміністрацыйнага затрымання напісана, што затрымліваў Міхаіла менавіта Гадун. Суддзя спытала ў сведкі, ці адпавядае напісанае ў пратаколе рэчаіснасці. Міліцыянер адказаў, што напісаў тое, што яму сказалі. Суддзя спыталася, хто яму гэта казаў, той не адказаў.

Суддзя яшчэ некалькі разоў запыталася ў сведкі, якім чынам ён напісаў пратакол, калі не ведае абставін затрымання. Сведка не змог растлумачыць. Па словах Гадуна, затрыманых дастаўлялі яму ў кабінет, а ён проста складаў пратаколы.

Пасля сведка Гадун растлумачыў, што сведчанні ў пратаколе затрымання не выдуманыя, а проста неправераныя. Суддзя запыталася, як іх праверыць, на што сведка адказаў: цяпер ужо ніяк.

### «Сказалі, калі не падпішу пратакол, то сяду на 15 сутак»

**Мікалай Атрахімовіч** – бацька Міхаіла. Увечары 10 жніўня каля 19 гадзін яны разам ішлі дадому. Мікалай пацвердзіў словы сына, што міліцыянеры затрымалі іх каля будынка былога банка БелВЭБ.

– Нас с сынам затрымалі супрацоўнікі РАУС. Яны не прадставіліся. Адзін быў прапаршчык, другі – маёр, а іншых не запомніў.

Мікалай прасіў міліцыянераў патлумачыць, чаму іх затрымліваюць. Ніхто з супрацоўнікаў нічога не патлумачыў. У другі раз на просьбу сказаць прычыну затрымання міліцыянеры абяцалі надзець кайданкі.

Потым бацьку і сына адвезлі ў РАУС, звязалі рукі і паклалі на зямлю ва ўнутраным дворыку. Там яны ляжалі, пакуль не стала цёмна. Асабістыя рэчы забралі. Агляд паказаў, што Мікалай і Міхаіл былі цвярозыя. Пратакол складалі ў будынку РАУС.

– Там сядзелі супрацоўнікі. Сказалі, каб падпісваў ужо гатовы пратакол. Спытаўся, а калі адмоўлюся падпісваць, што будзе? Адказалі, што сяду на 15 сутак, а калі падпішу – адпусцяць дадому.

Мікалай падпісаў пратакол.

– Не памятаю, што было ў тым пратаколе. Я быў у шоку пасля таго, што там адбывалася. Дрэнна сябе кантраляваў, перажыў такое ўпершыню ў жыцці.

Пасля таго як Мікалай і Міхаіл падпісалі пратаколы, іх адпусцілі дадому. Мікалая асудзілі па артыкуле 23.34 КоАП на мінулым тыдні, далі штраф памерам у 20 базавых велічынь.

### «Я быў не экіпіраваны, у нас паляцелі яблыкі і камяні»

**Аляксей Кафанаў** працуе міліцыянерам у Маладзечанскім РАУС. 10 жніўня заступіў на службу па ахове грамадскага парадку. Кафанаў паведаміў, што ўвечары на Цэнтральнай плошчы пачалі збірацца людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі, а потым пачалі аб'ядноўвацца ў групы і крычаць лозунгі. Вайскоўцы ачапілі плошчу, а ён у мегафон папярэджваў пра адказнасць удзелу ў несанкцыянiраваным масавым мерапрыемстве.

– Праз некаторы час грамадзяне паспрабавалі прайсці праз шарэнгу вайскоўцаў у бок Цэнтральнай плошчы. Супрацоўнікі пачалі іх адціскаць. Потым людзі пайшлі ў парк. Я быў не экіпіраваны, у нас паляцелі яблыкі і камяні.

### Судніковіч: здымаў пратэстоўцаў, Атрахімовіча не бачыў

**Дзмітры Судніковіч** таксама працуе міліцыянерам у Маладзечанскім РАУС. 10 жніўня знаходзіўся на службе па ахове грамадскага парадку. Судніковіч не памятае, у колькі завяршыўся мітынг. Міліцыянер займаўся відэаздымкай пратэстоўцаў.

Судніковіч не бачыў на Цэнтральнай плошчы Атрахімовіча:

– Яго не памятаю. На відэазапісы ён не трапляў.

### Відэакамеры ў Маладзечанскім РАУС зламаліся ў дзень выбараў

**Яраслаў Туровіч** яшчэ адзін сведка, супрацоўнік Маладзечанскага РАУС. 10 жніўня ён знаходзіўся ў аддзяленні, размяркоўваў затрыманых для складання пратаколаў.

Туровіч патлумачыў, што Атрахімовічаў затрымалі амапаўцы. Яны і сказалі Туровічу, што Атрахімовіч актыўна ўдзельнічаў у несанкцыянiраваным масавым мерапрыемстве. Менавіта Туровіч сказаў Гадуну, які складаў пратакол, што Атрахімовіч быў на мітынгу.

Атрахімовіч яшчэ раз адзначыў, што яго затрымлівалі не амапаўцы, а супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС. Туровіч сказаў, што можа памыліцца, таму што прайшло шмат часу, а супрацоўнікі былі ў балаклавах. Атрахімовіч сказаў, што дакладна памятае, што міліцыянеры былі ў медыцынскіх масках чорнага колеру.

Міхаіл Атрахімовіч хадайнічаў правесці экспертызу подпісу пад пратаколам. Суддзя Южык не ўхваліла хадайніцтва. Тады мужчына хадайнічаў аб выкліку яшчэ аднаго сведкі – кіроўцы міліцэйскага аўто, у якім Міхаіла везлі ў РАУС.

– 9 і 10 жніўня задзейнічалі шмат супрацоўнікаў міліцыі, вайскоўцаў унутраных войск. Думаю, што ў сувязі з гэтым будзе складана, нават немагчыма высветліць, хто быў за рулём аўтамабіля. Яшчэ б сказаў, што гэта інфармацыя службовая, – патлумачыў сведка Туровіч.

Атрахімовіч хадайнічаў далучыць да справы відэазапіс з унутранага дворыка РАУС.

– Забралі ўсе рэчы, я ляжаў звязаны. Побач стаялі два супрацоўнікі. Адзін апісваў мае асабістыя рэчы, а другі супрацоўнік перавярнуў мяне на бок і здымаў на камеру. Ён прасіў назваць імя, прозвішча і дзе быў затрыманы.

Міхаіл дакладна не памятае, на які сродак вялі відэазапіс міліцыянеры. Туровіч сказаў, што нікога не здымалі на відэакамеру, а звяралі твары затрыманых з тварамі тых, хто ёсць у базе. Атрахімовіч запытаўся, ці ёсць відэаназіранне ва ўнутраным двары РАУС. Туровіч сказаў, што ў дзень правядзення выбараў відэакамеры ў РАУС зламаліся.

***

Суддзя Інэса Южык аштрафавала Міхаіла Атрахімовіча на 20 базавых велічынь.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

### 1 Беларусь 1

**6.10** Існасць [СТ].
**6.35** Х/ф **«МИРТ ОБЫКНОВЕННЫЙ».**
**8.30** Один день.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** Смысл жизни.
**9.45** Здоровье [СТ].
**10.35** Дача.
**11.10, 12.10** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ».**
**15.10** Краіна.
**15.40** Х/ф **«ДВОЙНАЯ ЛОЖЬ».**
**19.10, 21.40** Х/ф **«НЕНАВИЖУ».**
**21.00** Панорама.
**23.35** Х/ф **«СИНДРОМ НЕДОСКАЗАННОСТИ».**
**1.35** День спорта.

### 2 Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.45** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.35, 21.05** Телебарометр.
**9.40** Х/ф **«АТЛАНТИДА: ЗАТЕРЯННЫЙ МИР».**
**11.15** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.05** Камень, ножницы, бумага.
**12.40** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.
**13.40** Х/ф **«БЕЛЛЬ И СЕБАСТЬЯН: ДРУЗЬЯ НАВЕК».**
**15.10, 23.50** «Когда мы дома 2». Скетчком.
**15.40** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.
**17.15** Премьера. Семейное фэнтези «Мери Поппинс возвращается».
**19.25** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА».**
**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ: СУНДУК МЕРТВЕЦА».**

### 3 Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».
**8.00, 14.40, 20.20** Навіны культуры.
**8.20, 15.00** «Гэты дзень».
**8.25** «Дама з папугаем». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Жывая культура». Традыцыя выпякання грачанага хлеба (вёскі Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці).
**10.25** «Беларуская кухня». Стромга з яблыкамі.
**11.00** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.25** «Ясенін». Шматсерыйны мастацкі фільм.
**14.15** «Навукаманія».
**15.05** «Кадры жыцця». Палітык, пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Чаргінец.
**15.55** «Жаніх з таго свету». Мастацкі фільм.
**16.50** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
**17.30** «Карнавал». Мастацкі фільм [СТ].
**20.05** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — пісьменнік, публіцыст Алесь Камароўскі.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Сем нянек». Мастацкі фільм [СТ].
**22.25** «Арт-гісторыі». «Гульні Пікаса» ў кераміцы. Гісторыя неспадзяванага дару Надзі Лежэ.
**22.50** Святочны канцэрт да 200-годдзя Станіслава Манюшкі.

### ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00, 20.00** Наши новости.
**7.15** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00** Премьера. «101 вопрос взрослому».
**9.15** Х/ф **«ВЕСНА НА ЗАРЕЧНОЙ УЛИЦЕ».**
**10.55** «Видели видео?».
**12.30** Премьера. «На дачу!» с Наташей Барбье.
**13.35** Премьера. «Из дела майора Черкасова. «Палач». Без срока давности».
**14.35** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**16.20** «Ледниковый период». Новый сезон.
**18.20** «Ледниковый период». Новый сезон. Продолжение.
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Сегодня вечером».
**22.45** Х/ф **«ОТДАМ ЖЕНУ В ХОРОШИЕ РУКИ».**
**0.30** «Наедине со всеми».

### СТВ

**6.15, 23.30** «Секретные территории».
**8.00** «Анфас».
**8.20** «Самая полезная программа».
**9.10** Документальный проект.
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00, 13.40, 16.40, 20.05** Т/с **«ВАЖНЯК. ИГРА НАВЫЛЕТ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**19.55** «СТВ-спорт».
**22.35** Кикбоксинг. Чемпионат Беларуси. Финалы.

### Мир

**5.00** Х/ф **«МОЯ ЛЮБОВЬ».**
**5.10, 7.50** Мультфильмы.
**7.20** «Секретные материалы».
**8.00** Премьера. «Знаем русский». 8 выпуск.
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено». 29 выпуск.
**10.00, 16.00, 19.00** Новости.
**10.10** Х/ф **«ВИЙ».**
**11.50, 16.15** Т/с **«ЗАПАСНОЙ ИНСТИНКТ».**
**16.40, 19.15** Т/с **«ДОМ-ФАНТОМ В ПРИДАНОЕ».**
**21.25** Т/с **«МОЙ ЛИЧНЫЙ ВРАГ».**
**1.30** Х/ф **«ОХРАННИК ДЛЯ ДОЧЕРИ».**
**3.15** Т/с **«ДЕВУШКА СРЕДНИХ ЛЕТ».**

### НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05** Сегодня. Главное.
**6.10** «Наукомания».
**6.45** «50 рецептов первого».
**7.20** «Дача».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** «Города Беларуси».
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Главная дорога.
**10.55** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**11.45** Квартирный вопрос.
**12.45** Истории спасения.
**13.15** «Поедем, поедим!».
**14.10** Криминальный детектив «Собачья работа».
**16.20** «Секрет на миллион». Мария Арбатова.
**18.05** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**20.05** «Ты супер!» Новый сезон.
**22.35** Х/ф **«ДЕНЬ ОТЧАЯНИЯ».**
**0.25** «Таинственная Россия».

### БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НА СЕНЕ».**
**9.00** Х/ф **«ЕСЛИ БЫ ДА КАБЫ».**
**11.00** ВЕСТИ.
**11.15** «Наше дело».
**11.30** «Сто к одному».
**12.20** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.20** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.25** «Мама Мия». Праздничный концерт, посвященный Дню матери.
**16.15** Х/ф **«МОЁ СЕРДЦЕ С ТОБОЙ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«ПОСЛУШНАЯ ЖЕНА».**

## кіно і спорт

### TV1000

**7.20** Красная Шапка против зла. **8.45** Нокаут. **10.25** Лица в толпе. **12.05** Солт. **13.50** Люди в чёрном. **15.35** Люди в чёрном 2. **17.05** Люди в чёрном 3. **19.00** Три метра над уровнем неба. **21.10** Три метра над уровнем неба: Я тебя хочу. **23.30** Любовь и другие лекарства. **1.30** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **2.55** Шанхайские рыцари. **5.00** Остров головорезов.

### TV1000 ACTION

**6.30** Сокровище Амазонки. **8.10** Шутки в сторону 2: Миссия в Майами. **10.05** Гудзонский ястреб. **11.45** РЭД. **13.35** Соната. **15.05** Соломон Кейн. **16.55** Другой мир. **19.00** Другой мир 2: Эволюция. **20.45** Другой мир: Восстание ликанов. **22.15** Другой мир: Пробуждение. **23.35** Каратель. **1.45** Немыслимое. **3.20** Экспат. **5.10** Ведьма из Блэр: Курсовая с того света.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.45** Узник замка Иф. Граф Монте-Кристо. **8.00, 2.05** Сторож. **9.55** Робо. **11.20** Эластико. **12.55** Пять невест. **14.50** Легенда №17. **17.15** На районе. **19.00** Любит не любит. **20.30** Как я стал русским. **22.10** Трудности выживания. **23.50** Дурак. **4.00** Иван Царевич и Серый Волк 3. **5.30** Килиманджара.

### ТВ3

**6.00, 9.15** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **10.15** Х/ф **«БЕТХОВЕН-5». 12.00** «Лучший пёс». **13.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ЛЕГИОН». 15.15** Х/ф **«ХОББИТ: НЕЖДАННОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ». 18.30** Х/ф **«ХОББИТ: ПУСТОШЬ СМАУГА». 21.45** Х/ф **«ХОББИТ: БИТВА ПЯТИ ВОИНСТВ». 0.30** Х/ф **«НЕ В СЕБЕ». 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«Я ТЕБЯ НИКОМУ НЕ ОТДАМ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«СУЧЬЯ ВОЙНА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2». 3.00** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА». 4.35** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ». 6.20** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ». 8.00** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ». 9.50** Х/ф **«МИССИЯ: НЕАДЕКВАТНА». 11.35** Х/ф **«ТАЧКА НА МИЛЛИОН». 13.45** Х/ф **«КОНВОИРЫ». 15.40** Х/ф **«ЛЕГКОЕ ПОВЕДЕНИЕ». 17.35** Х/ф **«ПРИЗРАКИ БЫВШИХ ПОДРУЖЕК». 19.30** Х/ф **«КРУТАЯ ДЖОРДЖИЯ». 21.35** Х/ф **«УДАЧИ, ЧАК». 23.30** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.00, 2.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 2.55, 3.45, 4.45, 5.45, 6.45, 7.45, 8.45, 9.50, 10.50, 11.50** Т/с **«КОНСУЛЬТАНТ». 12.55, 13.45, 14.40, 15.35, 16.30, 17.20, 18.15, 19.10, 20.00, 20.55, 21.50, 22.45** Т/с **«ИСТРЕБИТЕЛИ». 23.40** Т/с **«БЕГИ!».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.25** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **12.05** Х/ф **«РАЙОН №9». 14.15, 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.15** Х/ф **«СНОУДЕН». 18.50** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК: ЧЕРЕЗ ВСЕЛЕННЫЕ». 22.30** Х/ф **«ХЭНКОК». 0.15** Х/ф **«ОБЕЩАНИЕ». 2.45** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **3.35** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.45** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 26-й тур. ФК Слуцк — ФК Минск. **8.15** Хоккей КХЛ. Динамо-Минск — Локомотив (Ярославль). **10.00, 21.30** Плавание. Международный турнир. **12.05** Хоккей. Чемпионат Беларуси. ХК Гомель — ХК Могилев. **14.20** Футбол. Чемпионат Англии. Эвертон — Ливерпуль. **16.20, 23.00** Дзюдо. Чемпионат Беларуси. **17.50** Спорт-центр. **19.50** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити — Арсенал. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**0.00, 6.00, 9.30, 12.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 13-й этап. **1.30** Велоспорт. Схелдепрейс. **2.30** Горные лыжи. Кубок мира. Гармиш-Партенкирхен. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **3.15** Горные лыжи. Кубок мира. Сестриер. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **4.00, 8.00, 10.30** Снукер. English Open. 1/4 финала. **11.30** Велоспорт. Бельгия. **13.25** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 14-й этап. **17.45, 18.45** Маунтинбайк. Чемпионат Европы. **19.45** Снукер. English Open. 1/2 финала. **20.45** Снукер. English Open. 1/2 финала. Прямая трансляция.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.55, 16.55, 0.50** Испытание на прочность. **6.30, 9.30, 12.45, 15.00, 17.25, 22.50, 0.30, 3.20** Итоговые новости. **6.45, 8.00, 17.45** Металлоломщики. **7.30, 14.30, 1.50** Тест на «Драйве». **8.50, 21.35** Наезд! **9.00, 2.50** Сити-тестер. Эксклюзив. **9.50** Тест в большом городе. **10.55** По дорогам Второй мировой. **11.30** Автолайф. **11.50** Вторичка. **12.10, 19.35, 23.00, 3.35** Тест с дядей Ваней. **13.05, 20.15, 23.40, 4.10** Супергрузовики. **15.20, 21.00, 4.55** Автомобильные музеи мира. **15.50** Вечер с Пикуленко. **16.35, 22.30** Авто: вторые руки. **18.35** Обновление. **18.50** Советы юриста. **21.55, 5.25** Байки про байки.

### EXPLORE

**6.00, 16.15, 21.20** Рыбалка со звездами. **6.25, 7.15, 8.05, 19.40** Невероятная рыбалка. **9.00, 9.25, 9.50, 10.15, 14.35, 15.00** Нефритовая лихорадка. **10.40, 11.25** Ржавые тачки на прокачку. **12.15, 13.00, 13.50, 18.50, 1.35, 2.20, 3.05, 3.55** Австралийские золотоискатели. **15.25, 18.05** Поисковая команда в Австралии. **17.00** Лондонский супертуннель. **20.30** Речные чудовища. **22.10** Чудовищный карп. **23.00, 23.50** Большой улов. **0.40** Тренировка по древним традициям. **4.40** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.20** Невероятные изобретения. **6.45, 2.50, 3.35** Музейные тайны. **7.30** Безумцы с «Батавии». **8.30, 21.50** Операция «Золотая лихорадка». **9.25, 10.20** Последний поход викингов. **11.15, 12.15** Кельты: кровью и железом. **13.20** Загадка исчезновения неандертальцев. **14.15, 15.20, 16.25, 17.30** Расшифровка тайн. **18.35, 19.20** Мифы и чудовища. **20.10** Разгадка тайны пирамид. **21.00** Оружейники: искусство войны. **22.45** Тайны музеев. **23.30, 0.20** Запретная история. **1.05** Загадки Египта. **1.55, 4.20** Тридцатилетняя война — Железный век. **5.20** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.05, 3.55, 4.20, 4.50** Уличный ветеринар. **6.35, 7.20, 8.05, 8.50, 9.35, 3.05** Ветеринар из Йоркшира. **10.20, 10.45, 11.10, 11.35, 12.00** Спасение диких медведей. **12.25, 13.15, 14.10** Выживание в дикой природе. **15.00** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **15.50, 16.40** Загадочная планета. **17.30** Жилища животных: прирожденные инженеры. **18.35** Берег хищников. **19.25** Опасные исполины. **20.25** Гениальные морские охотники. **21.20, 22.05, 1.30, 5.15** Мутации погоды. **22.50** Рассказы о бурях. **23.55** Невероятные встречи с животными. **0.40** Хищные питомцы. **2.15** Анатомия крупнейших животных.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.25, 2.40, 3.25, 4.10** Авто-SOS. **8.20** Машины: Разобрать и продать. **9.10, 10.00** Внутри невероятной механики. **10.50, 11.15, 5.45** Сделать за один день. **11.40, 12.05, 12.30, 12.55, 13.20, 13.50** Фабрика еды. **14.15, 15.05** Путешествия с Гордоном Рамзи. **15.55, 16.45, 17.35** Древний Китай с высоты птичьего полета. **18.25** Мегазаводы. **19.15** Умные города мира: Амстердам. **20.05** Суперсооружения. **21.00** Европа с высоты птичьего полета. **21.50, 22.40, 23.30** Создание Райского острова. **0.20** Служба безопасности аэропорта: Перу. **4.55** Осушить океан.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.10, 11.05, 12.05, 13.10, 14.05, 15.05, 16.10, 17.00, 18.05, 19.10, 20.15, 21.20, 22.25, 23.15, 0.05, 1.10, 2.00, 3.05, 4.00, 5.00** Охота с луком. **6.30, 7.30, 8.35, 9.40, 10.45, 11.35, 12.40, 13.45, 14.35, 15.40, 16.45, 17.35, 18.40, 19.45, 20.50, 21.55, 23.00, 23.50, 0.40, 1.45, 2.35, 3.35, 4.35, 5.30** Кухня с Сержем Марковичем. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Варенье. **6.45, 10.55, 14.55, 18.50, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 15.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30** Огород круглый год. **8.00, 12.15, 16.15, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Домик в Америке. **9.20, 3.40** Букварь дачника. **9.35, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Сельские профессии. **11.10** Огород круглый год. **11.25** Огород круглый год. Осенние работы. **11.40, 15.40, 23.35, 3.55** Усадьба будущего. **13.00** Семейный обед. **19.40** Усадьбы будущего. **1.55** Особый вкус.

## Беларусь 1

**6.25, 16.25, 19.10** Х/ф **«МИРТ ОБЫКНОВЕННЫЙ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.20** Родные люди.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«СИНДРОМ НЕДОСКАЗАННОСТИ».**

**14.30** Маршрут построен.

**15.15** Х/ф **«1418 ДНЕЙ. ИСТОРИЯ ПОБЕДЫ».**

**15.55** Один день.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ДВОЙНАЯ ЛОЖЬ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.45** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.05, 21.20** Телебарометр.

**9.10** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.00** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**11.00** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.05** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА».**

**13.35** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.00** Хоккей. КХЛ. «Динамо-Минск» — «Спартак» (Москва).

**19.30** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.50** Х/ф **«БЛОНДИНКА В ЭФИРЕ».**

**23.40** «Третий лишний». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.25, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 14.45** «Гэты дзень».

**8.25** «Трое из Простоквашино». Мультфільм.

**8.45** «Сем нянек». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Бабка-грачанік.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Карнавал». Мастацкі фільм [СТ].

**14.50** «УНОВИС». Дакументальны фільм. Рэжысёр — Яўген Сяцько.

**15.45** «Славянскі базар у Віцебску-2020». Залаты хіт.

**17.50** «Дама з папугаем». Мастацкі фільм [СТ].

**19.30** «Кадры жыцця». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Наталля Тамела.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Ясенін». Шматсерыйны мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** «Непутёвые заметки».

**9.35** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.55** Х/ф **«ОТДАМ ЖЕНУ В ХОРОШИЕ РУКИ».**

**11.40** «Видели видео?».

**13.55** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**15.10** «100 имён Беларуси. «Яков Зельдович.Теория горения и взрыва».

**16.20** «Ээхх, Разгуляй!».

**18.20** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?» Осенняя серия игр.

**22.45** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.05** Х/ф **«ЕГЕРЬ».**

## СТВ

**6.30, 23.50** «Секретные территории».

**8.15** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Неизвестная история».

**11.55, 13.40, 16.40** Т/с **«ВАЖНЯК. ИГРА НАВЫЛЕТ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.50** Документальный спецпроект.

**22.25** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Т/с **«ДЕВУШКА СРЕДНИХ ЛЕТ».**

**6.15** Мультфильмы.

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ЖИТЬ СНАЧАЛА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05** «Наукомания».

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** Беларусы.

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.40** «Дачный ответ».

**12.40** Истории спасения.

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.10** Криминальный детектив «Собачья работа».

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.25** Ты не поверишь!

**22.25** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ПОСЛУШНАЯ ЖЕНА».**

**10.30, 11.30** Х/ф **«СЕМЬЯ МАНЬЯКА БЕЛЯЕВА».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.40** Х/ф **«ЗЛАЯ ШУТКА».**

**16.35** Х/ф **«ЗАБЫВАЯ ОБО ВСЁМ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.25** Х/ф **«ТАНГО МОТЫЛЬКА».**

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**7.20, 1.25** Полночное солнце. **9.10** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **10.40** Три метра над уровнем неба. **12.50** Три метра над уровнем неба: Я тебя хочу. **15.10** Любовь и другие лекарства. **17.10** Тайное окно. **19.00** Игры разумов. **21.10** Остров проклятых. **23.45, 5.00** Останься. **3.00** Соммерсби.

### TV1000 ACTION

**6.25** Каратель. **8.25, 0.00** Великий уравнитель. **10.40** Другой мир. **12.40** Другой мир 2: Эволюция. **14.25** Другой мир: Восстание ликанов. **15.55** Другой мир: Пробуждение. **17.20** Механик. **19.00** Перевозчик 3. **20.45** Ограбление по-итальянски. **22.40** Противостояние. **2.45** Хеллбой II: Золотая армия. **5.10** Из Парижа с любовью.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.50** Узник замка Иф. Аз воздам. **8.35** Любит не любит. **10.05** Как я стал русским. **11.40** Трудности выживания. **13.20** Алёша Попович и Тугарин Змей. **14.40** Добрыня Никитич и Змей Горыныч. **15.55** Илья Муромец и Соловей-Разбойник. **17.25** Хороший мальчик. **19.05** Давай разведёмся! **20.55** Про любоff. **23.00** Аритмия. **0.55** Завод. **2.45** Робо. **4.10** Иван Царевич и Серый Волк 4. **5.30** Сторож.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Новый день». **8.45** Х/ф **«БЕТХОВЕН-5». 10.30** Х/ф **«ОСТРОВ ГОЛОВОРЕЗОВ». 13.00** Х/ф **«ХОББИТ: ПУСТОШЬ СМАУГА». 16.00** Х/ф **«ХОББИТ: БИТВА ПЯТИ ВОИНСТВ». 19.00** Х/ф **«ВО ИМЯ КОРОЛЯ». 21.30** Х/ф **«НЕОБЫЧАЙНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АДЕЛЬ». 23.45** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЙ ЛЕГИОН». 1.30, 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ДЕВИЧНИК». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«СУЧЬЯ ВОЙНА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАВИГАТОР». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 0.00, 1.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 2.00, 3.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.35** Х/ф **«ПАРК КУЛЬТУРЫ И ОТДЫХА». 3.25** Х/ф **«ВЫСОКИЙ БЛОНДИН В ЧЕРНОМ БОТИНКЕ». 5.05** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ». 6.50** Х/ф **«ЗАЖГИ ЭТИМ ЛЕТОМ». 8.35** Х/ф **«ЗАКОНУ ТУТ НЕ МЕСТО». 10.25** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ». 12.15** Х/ф **«МАЛЬЧИК В ДЕВОЧКЕ». 14.05** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА». 15.45** Х/ф **«ДОСПЕХИ БОГА: ОПЕРАЦИЯ ЯСТРЕБ». 17.50** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ДИК И ДЖЕЙН». 19.30** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА». 21.25** Х/ф **«РОБИН ГУД: МУЖЧИНЫ В ТРИКО». 23.25** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 1.30, 2.30** Т/с **«БЕГИ!». 3.50, 4.40, 5.35, 6.30, 7.30, 8.25, 9.20, 10.15, 11.10, 12.10, 13.05, 14.00, 14.55, 15.50, 16.55, 17.55, 18.50, 19.45, 20.45, 21.40** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 22.40, 23.50** Т/с **«КАИН. ИСКЛЮЧЕНИЕ ИЗ ПРАВИЛ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.25** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.50** Х/ф **«ПАПА-МАМА ГУСЬ». 14.50, 22.00, 0.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.45** Х/ф **«РОБИН ГУД: НАЧАЛО». 19.00** Х/ф **«ГОРДОСТЬ И ПРЕДУБЕЖДЕНИЕ И ЗОМБИ». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.45** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **2.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Спорт-микс. **7.10** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 26-й тур. Неман (Гродно) — ФК Городея. **9.05** Дзюдо. Чемпионат Беларуси. **11.10** Плавание. Международный турнир. **13.20** Пит-стоп. **13.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Столица (Минск) — ВитЭн (Орша). **15.50** Футбол. Беларусбанк — чемпионат Беларуси. 26-й тур. Ислочь (Минский р-н) — БАТЭ (Борисов). **17.50** Спорт-центр. **19.55** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск — Спартак (Москва). **21.55** Итоги недели. **22.40** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.25** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.

### EUROSPORT

**0.30, 6.00, 9.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 14-й этап. **2.30** Горные лыжи. Зольден. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **3.00** Горные лыжи. Зольден. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **4.00** Снукер. English Open. 1/2 финала. **8.00** Снукер. English Open. 1/2 финал. **10.45** Велоспорт. «Джиро д'Италия» и «Тур Фландрии». Мультиплекс. **17.45, 18.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Словения. **19.15, 20.45** Снукер. English Open. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.20, 16.50, 0.25** Испытание на прочность. **6.30, 14.00, 17.20, 1.45** Тест на «Драйве». **7.00, 17.55** Металлоломщики. **7.45, 8.45, 13.00, 16.35, 18.45, 23.20, 1.30, 3.45** Итоговые новости. **8.00** Советы юриста. **9.00, 9.55** Тест в большом городе. **9.45** Наезд! **10.30** По дорогам Второй мировой. **11.00** Все включено. Эксклюзив. **11.20** Вторичка. **11.35, 19.25, 22.30, 3.15** Тест с дядей Ваней. **12.15, 20.10, 23.35, 4.05** Супергрузовики. **14.30, 2.45** Сити-тестер. Эксклюзив. **15.00, 21.00, 4.50** Автомобильные музеи мира. **15.35, 22.05** Авто: вторые руки. **15.55** Байки про байки. **19.05** Эконом-тест. **21.35** Норильск Диксон. Есть рекорд! **22.25** Обновление. **5.20** Вечер с Пикуленко.

### EXPLORE

**6.00, 10.00** Рыбалка со звездами. **6.30, 7.25, 8.15, 9.05** Речные чудовища. **10.45, 11.10, 21.15, 21.40, 22.05, 22.30** Нефритовая лихорадка. **11.35** Лондонский супертуннель. **12.40** Поисковая команда в Австралии. **13.25, 14.15, 15.00, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.45, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.55, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **0.35** Тренировка по древним традициям. **1.25, 2.15, 3.00, 3.50** Дикая Монтана. **4.35** Выживание в лесу. **5.25** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.20, 6.45** Невероятные изобретения. **7.10, 8.00, 3.00, 3.50, 4.35** Музейные тайны. **8.45, 9.35, 12.00, 12.45, 23.35, 0.20** Запретная история. **10.20, 11.10** Мифы и чудовища. **13.35, 14.30** Последний поход викингов. **15.25, 16.25** Кельты: кровью и железом. **17.30** Загадка исчезновения неандертальцев. **18.25, 21.00** Операция «Золотая лихорадка». **19.20** Боевые корабли. **20.10** Титаник: истории из глубины. **21.55** Разгадка тайны пирамид. **22.45** Оружейники: искусство войны. **1.10, 2.05** Тридцатилетняя война — Железный век. **5.20** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.15, 7.05, 7.55, 8.45, 17.50, 18.45, 22.10, 23.00** Выживание в дикой природе. **9.40, 17.00** Берег хищников. **10.30, 11.25, 19.35, 20.30** Бескрайняя Африка. **12.20** Загадочная планета. **13.10** Великая американская оттепель. **14.10, 21.20** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **15.00** Жилища животных: прирожденные инженеры. **16.05** Гениальные морские охотники. **23.55** Невероятные встречи с животными. **0.40** Хищные питомцы. **1.30, 5.20** Мутации погоды. **2.15** Анатомия крупнейших животных. **3.10** Ветеринар из Йоркшира. **3.55, 4.20, 4.50** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.35, 3.35, 4.20** Авто-SOS. **8.25** Машины: Разобрать и продать. **9.15, 10.10** Европа с высоты птичьего полета. **10.55, 11.45** Затерянные города с Альбертом Лином: лучшее. **12.40, 13.30** Инстинкт выживания. **14.20, 14.45** Горячие границы: Латинская Америка. **15.10** Служба безопасности аэропорта: Перу. **17.40, 18.30** Расследования авиакатастроф. **19.20, 20.10** Сила племени. **21.00, 21.50, 22.40, 23.30** Путешествия с Гордоном Рамзи. **0.20, 0.50, 1.10** Фабрика еды. **1.35** Сделать за один день. **2.00, 2.45, 5.05** Осушить океан.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 22.05, 2.05** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.35** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 23.05, 3.10** Рыбалка в России. **7.25, 15.20, 23.35** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 15.50, 20.00, 0.05, 4.10** Рыбалка 360. **8.25, 0.35, 4.35** Егерский кордон. **8.55, 12.50, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.25, 17.25, 21.35, 1.35, 5.35** Мир рыболова. **11.20, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **12.20, 16.20, 20.30** Давай зарубимся! **12.35, 16.35, 20.45** Популярная охота. **18.00** Охота и рыбалка в. **18.55** Мой мир — рыбалка. **21.00** На рыбалку с охотой. **2.55** Крылатые охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.40, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Варенье. **6.45, 10.55, 14.50, 18.50, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 11.15, 15.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 23.35** Усадьба будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.50, 16.45, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 20.55, 0.55, 5.05** Домик в Америке. **9.20, 3.40** Букварь дачника. **9.40, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Сельские профессии. **13.35** Огород круглый год. **15.40, 19.35, 3.55** Усадьбы будущего. **17.00** Огород круглый год. **17.15** Огород круглый год. Осенние работы. **20.40** С пылу с жару. **1.55** Особый вкус.




Фота twitter.com/erikadesmoulins.

# Адкуль з'явіўся вокліч «Жыве Беларусь!»

**Вокліч «Жыве Беларусь!» стаў вельмі папулярным падчас пратэстаў пасля прэзідэнцкіх выбараў. «Рэгіянальная газета» расказвае гісторыю дэвіза, які з'явіўся дзясяткі гадоў таму.**

«Жыве Беларусь!» – патрыятычны заклік-дэвіз, народжаны беларускай вызваленча-адраджэнскай ідэяй. Ён скіраваны на абуджэнне нацыянальна-грамадзянскіх пачуццяў, кансалідацыю народа Беларусі ў абарону свабоды, незалежнасці сваёй краіны, роднай мовы, усёй нацыянальнай культуры (Аляксей Каўка. «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі»).

### Паўстанцкі рух 1863-1864 гадоў і Кастусь Каліноўскі

Узімку 1863 года на тэрыторыі Царства Польскага, Паўночна-Заходняй губерні (Беларусь і Літва) і Валыні ўспыхнула паўстанне. Для паўстання былі дзве асноўныя прычыны – аграрная і нацыянальная. За два гады да паўстання на тэрыторыі Расійскай імперыі адмянілі прыгоннае права, але ў большасці сяляне не атрымалі свабоды і зямлі. Беларускія землі былі ў складзе імперыі, яны не былі незалежныя, таму беларуская нацыя не магла прайсці фінальны этап свайго фарміравання.

**Кастусь Каліноўскі** стаў значнай фігурай у беларускай гісторыі менавіта з-за ўдзелу ў паўстанні. З дзейнасцю Каліноўскага звязаныя асноўныя поспехі паўстанцаў. Каліноўскі стаў адным з ключавых персанажаў у паўстанцкім руху.

**Пароль паўстанцаў на беларускіх землях быў такі:**
**– Каго любіш?**
**– Люблю Беларусь.**
**– Так узаемна.**

Вокліч «Жыве Беларусь!» бярэ свае вытокі ад паўстанцкага руху 1863-1864 гадоў. А пароль паўстанцаў з'яўляецца першапачатковым пунктам у фарміраванні нацыянальнага беларускага вокліча-дэвіза.

### Купала, «Наша Ніва», выкарыстанне дэвіза ў 20 стагоддзі

Канчатковую ідэйную завершанасць вокліч набывае ў вершы **Янкі Купалы**.

**Прыкладна ў 1905-1907 гадах Купала напісаў твор «Гэта крык, што жыве Беларусь» – гэтай фразай і заканчваецца сам верш.**

Пасля фраза «Жыве Беларусь» вар'іруецца і замацоўваецца ў паэтычных і публіцыстычных творах многіх іншых пісьменнікаў, ідэолагаў нацыянальнага руху.

У рэдакцыйнай нататцы «Нашай Нівы» ад 1911 года сцвярджалася: «Расце беларускі нацыянальны рух, будзіцца да новага, уласнага жыцця забытыя ўсімі ўбогія беларускія вёскі; будзіцца і пачынаюць пазнаваць сваё нацыянальнае імя нашы мястэчкі і гарады. Будзіцца аграмадны крывіцкі абшар родных гоняў, лугоў і лясоў, і ў песнях народных песняроў грымне, што «жыве Беларусь!».

У 1917 годзе прайшоў Усебеларускі з'езд. На ім вокліч прагучаў у мадыфікаваным і пашыраным выглядзе – «Няхай жыве вольная Беларусь!». У часы Беларускай Народнай Рэспублікі дэвіз атрымаў значнае пашырэнне ў грамадска-палітычным жыцці.

**У БССР дэвіз саветызаваўся і стаў гучаць так – «Няхай жыве Савецкая Беларусь!».**

Падчас Другой сусветнай вайны выкарыстоўваўся беларускім калабарацыйным друкам, арганізацыямі Беларускай краёвай абароны, Саюзам беларускай моладзі. Нават выдаваўся часопіс пад назвай «Жыве Беларусь!». Ужо пасля заканчэння вайны дэвіз стаў прыкметным, неад'емным элементам палітычнага і духоўнага жыцця беларускай эміграцыі на Захадзе.

У апавяданні Васіля Быкава «На чорных лядах» таксама ўпамінаецца вокліч і адказ на яго. Слуцкі паўстанец перад смерцю усклікае:

«– Жыве Беларусь! – Жыве, – нечакана слабым голасам азваўся камандзір…»

У Беларусі ў гады позняга Савецкага Саюза аднаўленне гэтага вокліча звязанае з Беларускім народным фронтам і іншымі грамадскімі арганізацыямі.

**Пад дэвізам «Жыве Беларусь!» выходзіць «Народная газета» – колішні орган Вярхоўнага Савета Беларусі.**

Цяпер гэта штотыднёвік у складзе выдавецкага дома «Беларусь сёння».

**Настасся УТКІНА.**

● КАЛЯНДАР

**9 КАСТРЫЧНІКА**
**1920.** Дывізіі генерала **Люцыяна Жалігоўскага** занялі Вільню і Віленскі край.



**10 КАСТРЫЧНІКА**
**1939.** Паміж СССР і Літвой заключаны дагавор, па якім Вільня і частка Віленскай вобласці адышлі да Літвы.

**11 КАСТРЫЧНІКА**
**1967.** Пачаліся масавыя хваляванні каля слуцкага суда, якія пазней выліліся ў сутыкненне з сілавікамі. У пажары згарэла суддзя **Галіна Аляксеева**. У дыме задыхнуўся начальнік слуцкай КПЗ капітан міліцыі **Станіслаў Татур**. Капітан **Ягораў** памёр у шпіталі.

**12 КАСТРЫЧНІКА**
**1920.** Абвешчана Сярэдняя Літва, асобнае дзяржаўнае утварэнне на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны.

**13 КАСТРЫЧНІКА**
**1888.** Нарадзіўся **Язэп Драздовіч**, беларускі мастак, скульптар, этнограф (памёр у 1954). У 1920-х працаваў у Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Францыска Скарыны.



**14 КАСТРЫЧНІКА**
**1964.** У СССР адхілілі ад улады **Мікіту Хрушчова**. Новым першым (ад 1966 года – генеральным) сакратаром КПСС стаў **Леанід Брэжнеў**.



**15 КАСТРЫЧНІКА**
**1953.** На Мінскім трактарным заводзе выраблены першы трактар «Беларусь» на колах.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Крэўскі замак не захаваць

## Што абмяркоўвалі на Міжнародных чытаннях у Крэве

**Чаму Крэўскі замак неабходна рэканструяваць? Што мы ўбачым тут пасля рэканструкцыі? У чым асаблівасць крэўскіх гаворак? Як будынак мясцовай сінагогі стаў прадпрыемствам? Якія перспектывы чакаюць Крэва – сёння аграгарадок, а стагоддзі таму – старажытны горад, дзе вяршыліся самыя важныя для Беларусі гістарычныя падзеі? Гэтыя і іншыя пытанні абмеркавалі навукоўцы і краязнаўцы на другіх Крэўскіх чытаннях – Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі.**



Фота Ігара ПАЛЬЧЫНСКАГА.

Так мясцовы актывіст і фатограф Сяргей Гапон «ажыўляе» пустыя будынкі ў Крэве.

СМАРГОНЬ

Мерапрыемствы ладзілі 1 і 2 кастрычніка ў Мінску, Крэве і Смаргоні. Нашы карэспандэнты наведалі Крэва 2 кастрычніка.

Канферэнцыя – плён супрацоўніцтва Нацыянальнай акадэміі навук і Смаргонскага райвыканкама.

– Гісторыя Крэва вельмі важная для нашага краю і блізкая асабіста мне, – расказаў карэспандэнту намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама **Ігар Шчасны**. – Я родам з вёскі Сялец, што зусім побач з Крэвам. Мая дыпломная праца ў часы студэнцтва так і называлася – «Крэва». Шмат тады прыйшлося папрацаваць у архівах Вільні.

Мы падрыхтавалі некаторыя вытрымкі з выступленняў навукоўцаў і краязнаўцаў.

### Пра кансервацыю і рэстаўрацыю Крэўскага замка

Пра гэта распавяла **Алена Карлянок**, галоўны архітэктар праектаў праектнага філіяла ААТ «Белрэстаўрацыя».

• Праект разлічаны на тое, каб рэстаўраваць замкавыя сцены, галерэі і вежы, закансерваваць іх ад атмасферных ападкаў. А ў вежах стварыць музеі.

• Самая вялікая сцяна замка – 108 метраў. Яна ж і самая разбураная. 47 метраў з яе – няма.

• Калі сцяны няма зусім, яе ўзводзяць на тры метры.

• У малой вежы плануюць размясціць музей Першай сусветнай вайны, у княжацкай вежы – музей археалагічных знаходак.

**• У двары замка захаваюць варонкі часоў Першай сусветнай і выкапаюць сажалку, якая першапачаткова тут была.**

• Рэканструюць галерэі. Уваходзіць на іх трэба будзе па драўлянай лесвіцы.

### Пра вынікі, пытанні і перспектывы найноўшых даследаванняў Крэўскага замка

Па гэтай тэме выступіў **Алег Дзярновіч**, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, пастаянны кіраўнік раскопак у Крэве.

• Першыя інжынерна-археалагічныя даследаванні замка былі ў 1929-1930 гадах. Іх ладзілі польскія даследчыкі. У 1970-1980-х тут працаваў навуковец **Міхась Ткачоў** з гродзенскімі студэнтамі, а таксама – **Алег Трусаў**. У 1988-1989-х – **Ігар Чарняўскі**.

• Уздоўж сцен знаходзяць дахоўку 14-15 стагоддзяў. Верагодна, ёй крылі драўляныя галерэі.

• Археолагі знайшлі пласт пажару. Верагодна, што некалькі стагоддзяў таму галерэі гарэлі.

• Міхась Ткачоў знайшоў на тэрыторыі замка старажытны брук, які вёў ад галоўнай брамы да вежы.

• Падмуркі замка закладзеныя на вялікай глыбіні, бо ён будаваўся ў балаціне.

• Нядаўняя знаходка – бутэлькі ад лідскага піва 19 – пачатку 20 стагоддзя. Верагодна, іх пакінулі турысты. У пачатку мінулага стагоддзя турызм ужо быў даволі распаўсюджанай з'явай.

• Вядома, што акрамя галоўнай брамы была малая, аднак яе рэштказ пакуль не знайшлі.

• Крэўскі замак – не толькі помнік 14 стагоддзя. Гэта помнік розных эпох.

• Адзін з вуглоў замка быў разбураны ў 19 стагоддзі. Калі сучасныя навукоўцы расчысцілі завал, знайшлі там рэшткі цаглянай пабудовы.

• Асноўны будаўнічы матэрыял замка – камень. Цэгла выкарыстоўвалася ў адказных выпадках – арках, вуглах.

• У адным з завалаў знайшлі пражскі грош – універсальную старадаўнюю валюту, як сёння долар.

• Невялікія аркі ўнізе ў сценах замка мелі сваю функцыю – падтрымлівалі гідралагічны рэжым на тэрыторыі.

• Крэўскі замак пры нашым клімаце ў руінах не захаваць. Таму рэстаўрацыя неабходная.

• Верагодна, што ў будаўніцтве замка ўдзельнічалі нямецкія майстры

### Крэўскі замак у тэлефільме «Замкі Беларусі»

Гісторыю пра тое, як у канцы 1990-х здымалі фільм «Замкі Беларусі», расказаў **Андрэй Кіштымаў**, старшы навуковы супрацоўнік Рэспубліканскай лабараторыі гісторыка-культурнай спадчыны, Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук.

• Сярод замкаў, пра якія расказваюць у фільме, ёсць Крэўскі. Яго здымалі падчас дажджу.

• Унікальнасць фільма ў тым, што ўсе замкі ў ім – яшчэ да рэстаўрацыі.

• Калі пасля здымак творчая група прыйшла засяліцца ў гасцініцу ў Ашмянах, здарыўся такі выпадак. На сцяне гасцініцы быў дэкор – пейзаж са сцяжынкай.

**Нехта з групы сказаў: «О! Сцяжына Шарамета», згадаўшы выпадак, калі журналіст Павел Шарамет і аператар Дзмітры Завадскі на Ашмяншчыне перайшлі беларуска-літоўскую мяжу і зрабілі пра гэта сюжэт.**

Адміністрацыя гасцініцы так спалохалася такога жарту, што выклікала раённую міліцыю. Разбіраліся да ночы.

### Пра лексічную разнастайнасць крэўскай гаворкі

Мясцовы краязнаўца былы настаўнік Крэўскай школы **Аляксандр Камінскі** звярнуў увагу прысутных на дыялекты Крэва. Паглядзіце на некаторыя з іх. Вы чулі такія?

• Аглядацца – не толькі глядзець па баках, але і рабіць справы па гаспадарцы.

• Абсадзіць – супакоіць.

• Акруціцца – затрымацца ў гасцях на кароткі час.

• Каза – вялікія сані.

• Петухі – гасцінцы з вяселля для тых, хто на ім не быў.

• Лятонцы – непаседлівы.

• Памаўза – павольны.

• Адымачка – ануча, якой гаспадыня карысталася ля печы.

• Арбон – аўтобус.

• Цвічыць – караць.

• Цапу-лапу – хутка, абы-як.

### Як змяняліся функцыі і вобраз Крэўскай мураванай сінагогі

Старшыня праўлення мясцовага дабрачыннага фонду «Крэўскі замак», магістр архітэктуры, магістр гісторыі **Андрэй Шулаеў** расказаў прысутным пра гістарычны будынак, што месціцца побач з замкам.

• Сінагога, замак, царква Аляксандра Неўскага і лазня – самыя старыя будынкі ў Крэве. Яны перажылі Першую сусветную.

• Сінагога адлюстраваная на старой карце 1809 года.

• Самая старая яе выява адносіцца да канца 19 стагоддзя.

• Пасля Першай сусветнай змяніўся дэкор вокнаў сінагогі, з'явіліся карнізы.

• Сваё асноўнае прызначэнне будынак дакладна выконваў да 1939

# у руінах»


Алег Дзярновіч.


Аляксандр Камінскі.


Сяргей Гапон.


Выстава ля сцен Крэўскага замка.


Перад канферэнцыяй удзельнікі чыталі «Рэгіянальную газету».

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

года. Магчыма, нават да 1940. Пасля вайны тут месціўся кафляны цэх Астравецкага камбіната будматэрыялаў. Акрамя кафлі, тут рабілі збанкі, цёрлы, вазонніцы.

## Пра драўляную гандлёвую забудову Крэва міжваеннага перыяду

Вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту з Мінска **Аляксей Друпаў** расказаў пра драўляную гандлёвую забудову Крэва міжваеннага перыяду.

Такіх будынкаў у Крэве захавалася няшмат. Часта гандлёвыя памяшканні і склады былі сумешчаныя з жылымі ў адным доме.

**У такіх будынках былі два ўваходы – адзін жылы, другі – для пакупнікоў, звычайна з ганкам з вуліцы.**

Яшчэ адна рыса – уваход на рагу. Як прыклад – будынак старой аптэкі.

## Фэст-майстэрня Kreva Create – як новы інструмент для даследавання і трансфармацыі прасторы Крэва

Пра фатографа **Сяргея Гапона**, які некалькі год таму вярнуўся са сталіцы ў роднае Крэва, мы неаднойчы пісалі. Вось што адзначыў Сяргей у сваім выступленні.

• Насельніцтва Крэва змяншаецца. За год у сельсавеце стала менш на 150 чалавек. У ваколіцах пазачынялі ўсе школы. Калі так будзе працягвацца, праз некалькі дзесяцігоддзяў у сельсавеце не застанецца нікога.

• Ягайла некалі ўжо заключыў унію. Цяпер – наша чарга. Заключыць унію гісторыі з мастацтвам, ладзіць культурніцкія імпрэзы, фэсты, увасабляць праекты па развіцці і добраўпарадкаванні мястэчка, каб мясцовым не хацелася з'язджаць, каб іншыя людзі набывалі дамы ў Крэве.

Сяргей з аднадумцамі добраўпарадкуюць старыя яўрэйскія могілкі, вядуць перамовы з нашчадкамі яўрэяў, што жылі раней у Крэве, арганізавалі выставу ля сцен замка, стварылі сайт Крэва, вядуць акаўнты ў сацсетках. На сёлетні жнівень планавалі зладзіць фэст-майстэрню Kreva Create, аднак у святле апошніх падзей вымушаныя былі адкласці мерапрыемства.

## Што яшчэ плануюць зрабіць у Крэве

Актывісты і навукоўцы распавялі таксама аб праектах, якія ўжо былі рэалізаваныя ў Крэве і якія яшчэ чакаюць рэалізацыі. Ад намесніка старшыні ГА «Смаргонская ініцыятыва» **Надзеі Карасёвай** прагучала думка, што выдатна было б арганізаваць тэатр, які б ладзіў гістарычныя рэканструкцыі на тэрыторыі замка.

А **Вольга Сямашка**, сузаснавальніца фонду «Крэўскі замак», бакалаўр права, адзначыла, што пры пэўных умовах Крэва можа нават стаць музеем-запаведнікам.

Гісторыю мястэчка вывучаюць і ў мясцовай школе. Вучаніца 11 класа **Вікторыя Капыш** расказала пра тое, як Крэва ад сталіцы княства стала цэнтрам сельскага Савета. Кіраўнік даследавання – настаўнік **Міхаіл Міхалькевіч**.

Асобна працавала секцыя, прысвечаная ваеннай гісторыі Крэва.

Мы не змаглі падрабязна ахапіць усе выступленні. Аднак удзельнікі спадзяюцца, што па выніках канферэнцыі выйдзе зборнік матэрыялаў. Па першай канферэнцыі такі зборнік ёсць.

А мы большасць выступленняў змясцілі на старонках нашай газеты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Людзям не дазволілі абмеркаваць адкліканне дэпутата. Яны паскардзіліся ў суд

**Жыхары паскардзіліся на рашэнне прэзідыума Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў у суд. Першае судовае пасяджэнне адбылося, наступнае прызначанае на 13 кастрычніка.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Раман Гардзяюк выступаў у судовым пасяджэнні наконт адмовы Савета дэпутатаў ў сходзе для абмеркавання адклікання дэпутата Семенчука.

Расказваем, што гэта за суд і на якой стадыі ініцыятыва па адкліканні дэпутата.

### З чаго ўсё пачалося

У пачатку верасня ініцыятыўная група выбаршчыкаў па Маладзечанскай выбарчай сельскай акрузе №73 накіравала зварот старшыні Маладзечанскага райсавета дэпутату **Андрэю Паўкшце**. Жыхары заявілі аб скліканні сходу выбаршчыкаў па пытанні адклікання дэпутата Палаты прадстаўнікоў сёмага склікання **Алега Семенчука**.

Выбаршчыкі папрасілі арганізаваць сход выбаршчыкаў – вызначыць месца, час і дату. На сходзе меліся абмеркаваць пытанне адклікання дэпутата ў сувязі са стратай даверу. У заяве сцвярджаюць, што падчас прэзідэнцкай сёлетняй кампаніі быў шэраг парушэнняў заканадаўства, а пасля выбараў канстытуцыйныя правы мноства грамадзян груба парушылі – да мірных дэманстрантаў прымянялі фізічную сілу, зброю, у шэрагу выпадкаў у выніку гэтых дзеянняў зарэгістраваны смяротны зыход. Да затрыманых прымянялі гвалт, катаванне, своечасова не аказвалі медыцынскую дапамогу.

У заяве пішуць, што выбаршчыкам невядома пра дзеянні, якія дэпутат зрабіў, каб аднавіць парушаныя правы грамадзян. Таму яны лічаць, што мела месца бяздзеянне дэпутата. Гэта і стала прычынай страты даверу. Паводле Выбарчага кодэкса, пытанне аб адкліканні дэпутата можна падняць на сходзе выбаршчыкаў. Ініцыяваць скліканне такога сходу можа група выбаршчыкаў, што жыве на тэрыторыі акругі, у колькасці не менш за 150 чалавек. Заяву падпісалі 173 чалавекі.

### Сустрэча з дэпутатам

Пасля таго як гэту заяву адправілі, Семянчук пагадзіўся на сустрэчу з некаторымі ўдзельнікамі ініцыятыўнай групы. Размова адбылася, але, па словах ініцыятараў адклікання, паразумення на ёй не адбылося.

Сярод іншага дэпутат падчас сустрэчы сказаў, што галасаваў датэрмінова і за дзеючага прэзідэнта. А таксама, што ўпэўнены ў яго перамозе. Што тычыцца гвалту з боку сілавікоў, дэпутат пракаментаваў, што з гэтым павінны разбірацца кампетэнтныя органы. Нагадаем, што ў Беларусі пакуль не ўзбуджана ніводнай крымінальнай справы з такім зместам па выніках падзей пасля выбараў.

### Што прывяло да суда

10 верасня прэзідыум Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў прыняў рашэнне наконт арганізацыі сходу выбаршчыкаў.

У рашэнні пішуць, што ў заяве выбаршчыкаў няма фактаў парушэння дэпутатам законаў і дзеянняў, якія яго дыскрэдытуюць. Таму прэзідыум вырашыў адхіліць прапанову аб правядзенні сходу па пытанні аб адкліканні дэпутата Палаты прадстаўнікоў Алега Семенчука.

Гэта рашэнне выбаршчыкі абскардзілі, а скаргу ўжо разглядае суд Маладзечанскага раёна.

### Суд працягваецца

На судовым пасяджэнні 1 кастрычніка выбаршчыкаў прадстаўляў Раман Гардзяюк, другі бок прадстаўляў Андрэй Паўкшта. Бакі маглі выказаць сваю пазіцыю. Гардзяюк лічыць, што Выбарчы кодэкс не патрабуе ніякіх дадатковых дзеянняў, каб сустрэча па абмеркаванні адклікання адбылася. Паўкшта тлумачыў, якімі нарматыўна-прававымі актамі кіраваліся пры прыняцці рашэння.

Працяг працэсу прызначаны на 13 кастрычніка.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

## Падаткі за зямлю і нерухомасць трэба сплаціць да 16 лістапада

**Паводле заканадаўства, аплаціць маёмасныя плацяжы за 2020 год неабходна да 16 лістапада. Сярод такіх плацяжоў – зямельны падатак, арэндная плата за зямельны ўчастак, падатак на нерухомасць.**

Сплачвайце плацяжы, не чакаючы апошняга тэрміну. Можна занесці грошы наяўнымі ў банк або апаратару паштовай сувязі, аплаціць праз інтэрнэт-банкінг або праз электронны сэрвіс «Асабісты кабінет фізічнай асобы», ці праз інфакіёскі.

Сплаціць плацяжы можна дыстанцыйна. Для гэтага трэба выканаць тры крокі:

Даведайцеся свой уліковы нумар плацельшчыка (УНП). Ён пазначаны ў паведамленні на выплату фізічнымі асобамі зямельнага падатку і падатку на нерухомасць. Можаце ўвесці ваш ідэнтыфікацыйны нумар або прозвішча, імя і імя па бацьку і нумар дакумента, які пацвярджае асобу, калі пяройдзеце па спасылцы http://www.portal.nalog.gov.by/grp/#!fl.

Скарыстайцеся паслугай інтэрнэт-банкінга або мабільнага банкінга пры дапамозе любой мабільнай прылады – тэлефона, смартфона, планшэта, камп'ютара з любога месца, дзе ёсць мабільная сувязь.

Выбіраем каталог «Плацяжы і пераводы», затым падкаталог:

або «Аплата па QR-коду» (навядзіце камеру на QR-код, пазначаны ў паведамленні. На экране з'явіцца прозвішча, імя і імя па бацьку і сума да выплаты. Звярайце дадзеныя і аплаціце;

або «Сістэма «Разлік» (АРІП), «Аплата ў АРІП па коду паслугі». Уводзім код паслугі, пазначаный у паведамленні, пасля вялікімі літарамі ў лацінскай транскрыпцыі уводзім УНП. Пасля ўводу на экране з'явіцца прозвішча, імя і імя па бацьку і сума да аплаты. Звярайце і аплачвайце;

або «Сістэма «Разлік», выбірайце каталог «Падаткі», затым раскрывайце падкаталогі. «Мінская вобласць», «Назва раёна/Жодзіна», затым у залежнасці ад месца размяшчэння нерухомасці:

у садовым таварыстве (кааператыве) або гаражным кааператыве выбірайце «найменне РВК, фінаддзел», «Зямельны падатак», «Арэнда зямлі», «Падатак на нерухомасць», «Пеня». Пасля ўводзім вялікімі літарамі ў лацінскай транскрыпцыі УНП. Пасля ўводу на экране з'явіцца прозвішча, імя і імя па бацьку і сума. Звярайце дадзеныя і аплачвайце.

На тэрыторыі населенага пункта выбірайце «назва с/с (гарвыканкама), на тэрыторыі якога знаходзіцца аб'ект», «Зямельны падатак», «Арэнда зямлі», «Падатак на нерухомасць», «Пеня». Пасля ўводзім вялікімі літарамі ў лацінскай транскрыпцыі УНП. Пасля ўводу на экране з'явіцца прозвішча, імя і імя па бацьку і сума да аплаты. Звярайце дадзеныя і аплачвайце.

Грамадзяне, якім далі зямельныя ўчасткі ў арэнду, абавязаныя ў тэрмін не пазней за 16 лістапада сплаціць суму арэнднай платы, пазначаную ў дагаворы арэнды.

**Паводле паведамлення Інспекцыі МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# У ільянскім садку правялі выставу «Восень падарыла цуд»

ВІЛЕЙКА

**У канцы верасня ў Ільянскіх яслях-садзе зладзілі выставу вырабаў з прыроднага матэрыялу «Восень падарыла цуд».**



Выхаванцы садка каля сваёй выставы.

Мерапрыемства педагогі правялі для таго, каб далучыць дашкольнікаў да прыроды, каб у іх назапашваліся веды пра навакольны свет, развіваліся творчыя здольнасці. Імкнуліся таксама да стварэння вырабаў далучыць бацькоў. І гэта атрымалася. У падрыхтоўцы да выставы бацькі прынялі самы актыўны ўдзел.

**Яны разам са сваімі дзецьмі нарыхтоўвалі прыродны матэрыял, фантазіравалі і рабілі арыгінальныя, незвычайныя, эксклюзіўныя вырабы.**

Праца з прыродным матэрыялам творчая, яна патрабуе фантазіі. Бацькі разам з дзецьмі змайстравалі пацешныя цацкі, чароўных персанажаў з любімых казак, цэлыя кампазіцыі, якія можна назваць сапраўднымі творамі мастацтва. Ні адна з прац не паўтараецца.

Цяпер усе экспанаты міні-выставы ўпрыгожваюць фае дзіцячага садка.

Нашы педагогі ўпэўненыя: актыўны ўдзел бацькоў і дзяцей у жыцці дзіцячага садка, іх зносіны ў сумеснай творчасці дома аб'ядноўваюць усіх членаў сям'і, спрыяюць стварэнню ў сям'і духоўнага мікраклімату, дзе блізкія людзі любяць, разумеюць і цэняць адзін аднаго.

Мы вельмі ўдзячныя ўсім бацькам, якія не шкадавалі часу на заняткі са сваім дзіцем і паўдзельнічалі ў выставе.

**Наталля ШЭРАЯ, выхавальніца Ільянскіх ясляў-сада. Фота аўтара.**

# Дайджэст. **Што адбылося ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень**

**Прапануем вам агляд найбольш важных падзей, якія адбываліся за апошні тыдзень у свеце, а таксама ў Беларусі.**

### Культурныя дзеячы Беларусі выказаліся супраць гвалту і фальсіфікацый

Больш за 800 музыкантаў, мастакоў, акцёраў, выкладчыкаў, рэжысёраў, літаратараў, іншых дзеячаў і актывістаў падпісалі Адкрыты ліст з патрабаваннямі перагледзець вынікі прэзідэнцкіх выбараў, спыніць гвалт, адмяніць чорныя спісы і не ціснуць на майстроў культуры, нязгодных з палітыкай беларускіх уладаў. Сярод тых, хто падпісаў ліст, – народныя артысткі Беларусі **Зінаіда Бандарэнка** і **Зоя Белахвосцік**, былы міністр культуры і нядаўні дырэктар Купалаўскага тэатра **Павел Латушка**, музыканты **Лявон Вольскі**, **Уладзімір Пугач**, **Валеры Дайнэка**. Падпісалі ліст і некаторыя ўраджэнцы і жыхары нашага рэгіёна – **Віктар Марціновіч**, **Уладзімір Някляеў**, **Сяргей Башлыкевіч**, **Ігар Палынскі**.

### З Беларусі адклікаюць паслоў

Літва, Латвія, Эстонія, Германія, Польшча адклікалі з Беларусі сваіх паслоў. Дыпламатычны скандал паміж Беларуссю і краінамі ЕС разгарэўся 2 кастрычніка з-за патрабавання МЗС Беларусі да пасольстваў Польшчы і Літвы ў нашай краіне скараціць колькасць дыпламатаў. МЗС таксама прапанаваў Варшаве і Вільні адклікаць для консультацый сваіх паслоў, якія працуюць у Беларусі.

### Кіраўнік урада Кыргызстана сышоў у адстаўку

Прэм'ер-міністр Кыргызстана **Кубатбек Баронаў** падаў у адстаўку на фоне пратэстаў і беспарадкаў, якія пачаліся пасля парламенцкіх выбараў. Парламент ужо прагаласаваў за прызначэнне новым прэм'ерам **Садыра Жапарава** – былога дэпутата, якога напярэдадні пратэстоўцы вызвалілі з адной з турмаў у Бішкеку, дзе ён адбываў 10-гадовы тэрмін па абвінавачанні ў арганізацыі беспарадкаў.

### На акцыі пратэсту зламалі вадамёт. Вада пачала ліцца ўгору

4 кастрычніка на акцыі ў Мінску на Машэрава дэманстранты абступілі вадамёт, дасталі з яго кантэйнеры з каляровай вадкасцю і вылілі яе на дарогу. Пасля гэтага вадамёт зламаўся, ён беспярыпынна ліў ваду ўгору фантанам і вымушана з'ехаў.

### Прэзідэнт Украіны падпісаў указ для прыцягнення IT-спецыялістаў з Беларусі

Указ будзе спрыяць развіццю інвестыцыйнага патэнцыялу Украіны і прыцягненню высокакваліфікаваных IT-спецыялістаў і наватараў. Згодна з дакументам, Кабінет міністраў падоўжыць да 180 дзён у годзе тэрмін часовага знаходжання на тэрыторыі Украіны грамадзян Беларусі.

Таксама ўрад уводзіць пілотны праект для спрошчанага афармлення дазволу на жыхарства для гэтых катэгорый грамадзян Рэспублікі Беларусь. Мяркуецца прадугледзець магчымасць скарачэння да трох дзён тэрмінаў для атрымання такіх дакументаў без неабходнасці дадатковага выезду за межы ўкраінскай тэрыторыі.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі дзясяткі беларускіх IT-фірм заявілі пра намер пераехаць у іншыя краіны.

### ЗША ўвялі санкцыі ў дачыненні да васьмі грамадзян Беларусі

Мінфін ЗША ўвёў санкцыі ў дачыненні да васьмі грамадзян Беларусі. У спіс трапілі **Хазалбек Атабекаў**, намеснік камандуючага ўнутранымі войскамі МУС; **Дзмітры Балаба**, камандзір мінскага АМАПа; **Аляксандр Барсукоў**, намеснік міністра ўнутраных спраў; **Алена Дмухайла**, сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі; **Вадзім Іпатаў**, намеснік старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі; **Юры Караеў**, міністр унутраных спраў; **Іван Кубракоў**, начальнік ГУУС Мінгарвыканкама; **Юры Назаранка**, намеснік міністра ўнутраных спраў.

У спісе няма Аляксандра Лукашэнкі і яго сыноў.

### У Мінску прайшоў марш пенсіянераў

Некалькі соцень пенсіянераў пры актыўнай падтрымцы аўтамабілістаў зладзілі акцыю пратэсту супраць гвалту і фальсіфікацыі выбараў. Яны прайшлі маршам па праспекце Незалежнасці ў Мінску. Спачатку калона з плакатамі прайшлася па плошчы Незалежнасці, а затым рушыла ў бок Кастрычніцкай плошчы. Тут жанчыны сталі ў ланцуг. Пасля пайшлі да плошчы Перамогі і скіраваліся па Захарава ў бок Лінгвістычнага ўніверсітэта.

**Аддзел інфармацыі паводле «Нашай Нівы» і president.gov.ua.**




Алена Леўчанка – самая тытулаваная беларуская баскетбалістка.

# Самая яркая зорка беларускага баскетбола атрымала 15 сутак за шэсці

**Алена Леўчанка больш за 20 год гуляе за зборную Беларусі на чэмпіянатах Еўропы, свету і Алімпійскіх гульнях. 30 верасня яе затрымалі ў аэрапорце, калі яна збіралася вылецець на лячэнне траўмы, якую атрымала паўтара года таму. Нагода – удзел у мітынгах супраць фальсіфікацыі выбараў.**

## Затрыманне, суд і суткі

Раніцай 30 верасня «Наша Ніва» са спасылкай на адваката **Міхаіла Кірылюка** паведаміла, што Алену Леўчанку затрымалі. Яна расказала, што супрацоўнікі міліцыі забралі яе з аэрапорта. Баскетбалістка збіралася на планавае лячэнне і рэабілітацыю. З аэрапорта яе адвезлі ў мінскі Ленінскі РУУС, але калі туды прыехаў адвакат, то спартсменку ўжо адвезлі ў цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) на Акрэсціна.

Судовае пасяджэнне прайшло ў той жа дзень, праз некалькі гадзін пасля затрымання баскетбалісткі. Леўчанкі ў судзе не было, яна давала паказанні па відэасувязі з ЦІП. Па дадзеных сілавікоў, 23 жніўня і 27 верасня Алена Леўчанка ўдзельнічала ў несанкцыянiраваных шэсцях, несла плакат з надпісам «Народ – чэмпіён». Леўчанка не прызнала віну. Па яе словах, яна проста ў тыя дні гуляла па горадзе.

Пакуль суд вырашаў, якую пастанову вынесці па справе баскетбалісткі, прысутныя змаглі паразмаўляць з Леўчанкай. Тая дзялілася ўражаннем ад ізалятара.

– Я чула, як дзяўчаты спявалі «Купалінку». Вельмі прыгожа! Нават тут, у турме, людзі не падаюць духам. Гэта неверагодна! Я захапляюся гэтымі людзьмі, сілай духу беларускага народа, іх пазітывам. Гэта дае сілы мне і ўсім нам.

Суд прызнаў Леўчанку вінаватай і прысудзіў 15 сутак арышту.

## Падтрымка Леўчанкі і Свабоднае аб'яднанне спартсменаў

Алену Леўчанку падтрымаў гандбольны клуб «Віцязь-Леон». Каманда адмовілася гуляць з-за затрымання баскетбалісткі. Федэрацыя гандбола зняла клуб з чэмпіянату Беларусі. Леўчанку падтрымалі футбольныя каманды «Тарпеда-Мінск» і «Першы рэгіён» – яны зняліся са спаборніцтваў.

Былыя партнёры па зборнай Беларусі **Наталля Марчанка**, **Марына Крэс** і **Таццяна Троіна** выказалі заклапочанасць у сувязі з затрыманнем Леўчанкі і заявілі, што яе трэба вызваліць. Капітан нацыянальнай зборнай **Кацярына Сныціна** назвала Алену героем і таксама запатрабавала яе вызвалення. Леўчанку падтрымалі многія беларускія і замежныя спартсмены, журналісты, заўзятары.

У жніўні беларускія спартсмены стварылі Свабоднае аб'яднанне спартсменаў, якое было аўтарам калектыўнага ліста спартсменаў. Яны патрабавалі правядзення новых сумленных выбараў, спынення гвалту і расследавання фактаў гвалту з боку сілавых структур Беларусі.

У інтэрв'ю Еўрарадыё прадстаўнік Свабоднага аб'яднання спартсменаў і былы гулец нацыянальнай зборнай па баскетболе **Ягор Мешчаракоў** заявіў, што Леўчанцы паступалі пагрозы.

Леўчанка займае актыўную грамадзянскую пазіцыю, неаднаразова выказвалася наконт сітуацыі ў Беларусі перад і пасля прэзідэнцкіх выбараў.

– Пра законы ўспамінаюць толькі тады, калі трэба апраўдаць беззаконне. Калі нельга арыштаваць, прыкрываюцца «несанкцыянiраваным мерапрыемствам», хоць кожны чалавек, паўтаруся, мае права на мірны пратэст. А як пакараць вінаватых за гвалт – няма закона, – расказвала Алена.

## Лепшая цэнтравая, фіналістка галоўнага чэмпіянату ў свеце

Алена Леўчанка нарадзілася ў Гомелі ў 1983 годзе. У падлеткавым узросце пераехала ў Мінск, дзе вучылася гуляць у баскетбол у рэспубліканскім вучылішчы. У 17 год пераехала ў ЗША, там жыла некалькі год і гуляла ў каледжы.

Выступала за беларускую зборную з канца 1990-х гадоў пад кіраўніцтвам трэнера **Аляксандра Шымкавяка**. Першай прафесійнай камандай быў літоўскі клуб «ТЭА Вільнюс» у 2006 годзе. У тым жа годзе дэбютавала ў амерыканскай жаночай лізе, аналагу НБА, за клуб «Шарлот Стынг».

У 2007 годзе ў складзе нацыянальнай зборнай Беларусі заваявала бронзавы медаль чэмпіянату Еўропы. Гэта адзіны медаль беларускай жаночай зборнай па баскетболе з гэтага часу на міжнародных турнірах.

У 2008 годзе Леўчанка выступала за зборную на Алімпійскіх гульнях. Баскетбольная зборная трапіла туды ўпершыню. Беларускі занялі шостае месца.

У 2010 годзе беларускі сталі чацвертымі на чэмпіянаце свету. Тады Леўчанку прызналі лепшай цэнтравой свету. 2010-ы стаў самым зорным для беларускай баскетбалісткі, таму што яна ў складзе амерыканскага клуба «Атланта Дрым» выйшла ў фінал жаночага аналага НБА.

Леўчанка гуляла ў чэмпіянаце Кітая. Гэта спецыфічны турнір, у які замежныя баскетбалісткі трапляюць не часта, але ў кітайскіх чэмпіянатах гуляюць самыя зорныя прадстаўніцы жаночага баскетбола. Сярод экзатычных турніраў у кар'еры Леўчанкі можна адзначыць і чэмпіянат Лівана. Менавіта пасля ўдзелу ў фінальнай частцы ліванскага чэмпіянату Леўчанка атрымала сур'ёзную траўму, на лячэнне якой і збіралася вылецець з Мінска.

Акрамя шматлікіх чэмпіянатаў трэба адзначыць, што Алена Леўчанка з'яўляецца самай тытулаванай баскетбалісткай Беларусі. Яна чэмпіёнка Літвы і Польшчы, двухразовая чэмпіёнка Расіі, уладальніца двух Кубкаў Расіі і іншых тытулаў.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Фанцік.
3. Адсутнасць святла, густы змрок.
4. Уяўная лінія, якая праходзіць вакол зямнога шара на роўнай адлегласці ад абодвух полюсаў і падзяляе зямны шар.
7. Які належыць каму-небудзь іншаму.
8. У еўрапейскай культуры гэта з'ява лічыцца добрым знакам. А ў індзейцаў наадварот, таму што гэта з'ява нагадвае хвост скарпіёна.
11. Доўгі і пусты ў сярэдзіне прадмет круглага сячэння, прызначаны для правядзення вадкасці, пары, дыму.
12. Перашкодзіць руху, заблакаваць яго.
15. Горад, у якім знаходзіцца высокая лесвіца. Менавіта на ёй здымалі знакаміты кадр фільма «Браняносец «Пацёмкін"».
17. Казачнік Ганс Хрысціян Андэрсан заўсёды з сабой насіў гэты прадмет. Ён моцна баяўся пажараў і лічыў, што з дапамогай яе зможа выратавацца ад пажару праз акно.
19. Вельмі непрыемнае пачуццё.
21. Даслоўная вытрымка з тэксту ці прамовы.
22. Асцярожны ў сваіх учынках, разважлівы.
25. Металічны пруток або ланцуг з цяжарам на канцы, які мерна вагаецца з боку ў бок у падвешаным стане.
26. Чырвоны радок.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Від мастацтва, у якім мастацкі вобраз ствараецца сродкамі пластычных рухаў і рытмічнай змены выразных пастаў цела чалавека.
5. Забаўная выхадка, востры дасціпны выраз.
6. Прыстасаванне для выхаду праз сцяну.
7. Шкілет галавы пазваночных і чалавека.
9. Алесь Разанаў: « Вярнуць… вярнуцца б познім госцем у юны свет, у маладосць… А хто захоча ў маладосці застацца гэтакім, як …?!».
10. Грэчаскі палкаводзец Пір захапляўся высакародствам ворагаў рымлян. Перад Сатурналій ён пагадзіўся на некаторы час зрабіць гэта і не быў падманутым. Што пагадзіўся зрабіць з палоннымі Пір?
11. Пералік лічбавых дадзеных або якіх-небудзь звестак, размешчаных у пэўным парадку па графах.
13. Прыстасаванне, якое выкарыстоўваюць для вызначэння кірунку ветру.
14. Замужняя жанчына ў адносінах да свайго мужа.
15. Пашкоджанне механізма, машын у час руху, работы.
16. Цягнік, параход, аўтобус, які ідзе з найбольшай скорасцю і робіць прыпынкі толькі на галоўных станцыях.
18. Частка расліны, на якой трымаецца кветка.
19. Лінія, якая абмяжоўвае прадмет адной вонкавай рысай.
20. Быць жывым, існаваць.
23. Аптычная прылада з двух шкельцаў з аглабелькамі.
24. Пэўнае кола дзеянняў, якія павінны абавязкова выконвацца тым, каму яны даручаныя, або хто сам узяўся за іх выкананне.

## Адказы на крыжаванку з №40

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Грып. 3. Пах. 6. Калядкі. 9. Венгрыя. 10. Халера. 11. Разбой. 12. Вадзянік. 13. Школа. 14. Экспанат. 17. Псіхалогія. 18. Цяга. 20. Саргасава. 23. Этыка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Хутар. 3. Папера. 4. Ох. 5. Маліна. 7. Юравічы. 8. Мадагаскар. 10. Хлеб. 14. Эротыка. 15. Каталізатар. 16. Змеі. 18. Цукат. 19. Абсурд. 21. Радыё. 22. Свіст.

## ● ГАРАСКОП НА 9-15 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** Вас чакаюць містычныя супадзенні, якія будзе складана асэнсаваць. Гэта будуць нечаканыя званкі і раптоўныя сустрэчы. Будзе падавацца, што за ўсім гэтым хаваецца заблытаная задума. Магчыма, гэта і так. Як распараджацца гэтымі знакамі, вырашаць толькі вам.



**ЦЯЛЕЦ.** Самымі важнымі для вас павінны быць пытанні здароўя. Прычым важна думаць не толькі пра паўнавартасны сон, здаровае харчаванне і адпачынак. Важна паклапаціцца пра фізічную форму. Што тычыцца харчавання, звярніце ўвагу на якасць і свежасць прадуктаў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Важна быць уважлівымі, калі штосьці раіце. Звычайна людзі рады парадам, але толькі ад тых людзей, хто з'яўляецца для іх у нечым прыкладам. Што тычыцца няпрошаных парадаў і рэкамендацый, то яны, хутчэй за ўсё, раздражняюць.



**РАК.** Шматлікія складанасці абрынуцца адначасова. Узнікне адчуванне, што з гэтым патокам не справіцца. З пачуццём адзіноты, якое нахлыне неспадзявана, давядзецца справаўляцца самастойна, таму што самым блізкім людзям можа быць не да вас нават тады, калі яны патрэбны больш за ўсё.



**ЛЕЎ.** Імкніцеся спланаваць бліжэйшыя тыдні як мага больш падрабязна. Чым дакладней вы складзяце план, тым больш шанцаў, што ён увасобіцца ў рэальнасць. Так што не шкадуйце на гэта час.



**ДЗЕВА.** Будзе адчуванне, што вы ўсё прапусцілі і забылі. Але магчыма якраз цяпер вам трэба спыніцца і азірнуцца, каб убачыць, на што варта яшчэ звярнуць увагу. Дзякуючы гэтаму вы зможаце лепш зразумець, якія бліжэйшыя крокі вам варта зрабіць.



**ШАЛІ.** Вельмі важна ў гэты час не расслабляцца, быць актыўнымі, ініцыятыўнымі і мабільнымі. Гэта дапаможа здабыць поспех у справах – як асабістых, так і службовых. Ад вашай актыўнасці будзе залежаць тое, якімі стануць самыя важныя вынікі.



**СКАРПІЁН.** Вам спатрэбіцца прыкласці намаганні, каб дасягнуць мэты. Прычым не толькі сваёй, але і блізкага сябра. Ваша дапамога будзе вельмі важнай для блізкіх людзей або сваякоў. Спрыяльны перыяд для творчасці і самавыяўлення.



**СТРАЛЕЦ.** Нават калі вы не верыце ў цуды, яны адбываюцца з вамі цяпер. Вас чакаюць вялікія і важныя справы, калі вы не пашкадуеце на іх часу і сіл. Чакайце ўзнагароды за тыя дасягненні, якія паспелі зрабіць.



**КАЗЯРОГ.** Ад вас запатрабуецца гнуткасць, каб скарэкціраваць планы. Гэта дапаможа не проста захаваць выгадныя пазіцыі, але і заваяваць новыя перамогі. У сям'і спрыяльны час для гарманічнага ўладкавання непаразуменняў.



**ВАДАЛЕЙ.** Настрой будзе не вельмі добры, прычым без бачных прычын. Асабліва непрыемна, што перыяд будзе патрабаваць ад вас важных рашэнняў. Не паддавайцеся эмоцыям і ўзважвайце наступствы.



**РЫБЫ.** Вас накрые хваля рамантыкі, ад якой будзе немагчыма схавацца. Хавацца і не давядзецца – будзьце ініцыятыўнымі, і ўсё будзе ў вашых руках.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | | | 9 | | | | 1 |
| 6 | | 3 | | | | 5 | | 9 |
| 8 | | 5 | | | | 2 | | 4 |
| | | | | 3 | 7 | 4 | | |
| 5 | 7 | | | | | | | 6 |
| | 8 | | | | | | 2 | 7 |
| | 6 | 1 | | | | | 8 | |
| | | | | 1 | | 6 | | 5 |
| | | | | 4 | 8 | 9 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

# Трэцякласнік з Вілейкі перамог на конкурсе Нацыянальнай акадэміі навук

**Вучань 3 «А» класа вілейскай СШ №3 Леў Каркотка заняў трэцяе месца на конкурсе «За што я люблю родную зямлю».**

Конкурс ладзіў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, паведамляюць у школе.

На конкурс прымаліся эсэ, вершы, апавяданні, нарысы, напісаныя па-беларуску. Работы ацэньвалі супрацоўнікі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.

Пераможцаў урачыста ўзнагародзяць 30 кастрычніка ў Мінску.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**Дыплом за конкурс Нацыянальнай акадэміі навук – не першая ўзнагарода Льва. На фота – 1 верасня ў вілейскай СШ №3, дзе хлопчык атрымлівае дыпломы ад дырэктара школы Мікалая Гіро.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як займацца актывізмам, калі ты жывеш у вёсцы? Якім чынам шукаць аднадумцаў? Як заставацца верным сваім перакананням?**

## 10 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3-4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -3,7°С у 2002 годзе
Максімальная тэмпература +20°С у 2017 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,8 мм у 1985 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

- **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 96 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 16 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## У чым сіла беларусаў?



**Алеся Арцем'ева, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Сіла беларусаў у адзінстве і згуртаванасці.



**Ганна Шакель, студэнтка, Маладзечна:**
– Сіла беларусаў – у выключнай самаарганізацыі. Нам не патрэбны адзіны лідар. Штодня абіраюцца сотні стыхійных кіраўнікоў, якія вырашаюць пэўную праблему і становяцца назад у шэраг звычайных грамадзян. Наша сіла і ўнікальнасць у тым, што кожны з нас мае патэнцыял быць такім лідарам.



**Наталля Пагуца, прадавец, Маладзечна:**
– Мірнае неба і ўпэўненасць у заўтрашнім дні!



**Раман Шаўроўскі, майстар дарожна-будаўнічага ўчастка, Маладзечна:**
– У безвыходнасці.



**Павел Рыскаленка, кіроўца-міжнароднік, Маладзечна:**
– У нашым адзінстве і згуртаванасці. Верым, можам, пераможам!



**Іна Бажко, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Сіла беларусаў у іх зблізкэнні, у адной мэце – у праўдзе, простай сумленнай праўдзе.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Гэта другая частка апытанкі «У чым сіла беларусаў?». З першай часткай вы можаце пазнаёміцца ў нумары №39 за 25 верасня.

**Архіў «Рэгіянальнай газеты» 1995-2001 і 2013-2019 у вольным доступе на сайце Kamunikat.org**



Адсканруйце QR-код або скарыстайцеся кароткай спасылкай: **bit.ly/kamrh**

kamunikat.org
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№41 (1328) 9.10.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1689. Падпісана ў друк у 9.00 8.10.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**
© «Рэгіянальная газета», 2020

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.